Фэст у Орлі → 4



Трыялогі → 8




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 38 (29399) Год LVII | Беласток, 16 верасня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





# Будуючая згода ў Міхалове

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Шматкультурнасць — шанц развіцця — пад такім лозунгам у Міхалове адбылася сустрэча прэзідэнта РП Браніслава Камароўскага з самаўрадаўцамі і прадстаўнікамі няўрадавых арганізацый Гайнаўскага, Сямятыцкага і Беластоцкага паветаў. Хаця не было магчымасці, каб журналісты паставілі яму якое-небудзь пытанне, „Ніве", аднак, удалося спытаца ў прэзідэнта наконт таго, што далей будзе з дамовай аб польска-беларускім малым памежным руху (незалежна ад ранейшых заклікаў прэзідэнта Камароўскага і самаўрадаў па абодвух баках мяжы, Беларусь надалей затрымлівае надасланне адпаведнай ноты, каб дамова магла ўступіць у сілу):**

— Польшча зрабіла ўжо ўсё, што магла, а нават больш, каб гэты рух адбываўся. Я даўно паставіў подпіс, завяршаючы ратыфікацыйную працэдуру. Цяпер крок належыць беларускаму боку. Польшча ўжо паспела ўвесці малы памежны рух з Украінай і Калінінградскай вобласцю. З прыкрасцю не можам дачакацца малога памежнага руху з Беларуссю.

6 верасня, перад прыездам у Міхалова, у Беластоку ў рамках інаўгурацыі XII Маршу жывой памяці Сібіры, прэзідэнт усклаў кветкі да Катынскага помніка і да магілы Невядомага сібірака. Урачыста дзяржаўныя ўзнагароды чатырнаццаці асобам, у тым ліку Караліне Качароўскай, жонцы Рышарда Качароўскага, апошняга прэзідэнта РП на чужыне, які загінуў у смаленскай катастрофе. У час урачыстасці ў Падляшскай філармоніі адзначыў значэнне прымірэння паміж народамі. Дадаў таксама:

— Памяць патрэбная для існавання народа і ўтрымання тоеснасці.

У Міхалове прэзідэнта віталі хлебам і соллю ды ўручылі беларускі ручнік. З самаўрадаўцамі і прадстаўнікамі няўрадавых арганізацый сустрэўся тут у вялікай белай палатцы. Перад Майстэрняй фільма, гуку і фатаграфіі прывітаў яго тлум міхалаўян. Сярод іх былі вучні мясцовай школы з шарыкамі і кветкамі. Першакласнікі з гміннага комплексу школ хорам сказалі яму вершык: *...prosimy pamiętać nasze Michałowo, gdzie wiele kultur, żyje razem kolorowo...* Чакаючы прэзідэнта, спыталіся мы ў некаторых самаўрадаўцаў, чаго спадзяюцца яны ад гэтага візіту і што хацелі б сказаць прэзідэнту. Гаспадар візіту, бурмістр Марк Назарка:

— Міхалова ўзнікла і вырасла са шматкультурнасці і яна складае асаблівы элемент развіцця гміны. Гэтая сустрэча з'яўляецца добрай нагодай для абмену вопытам, як і падтрымкі панам прэзідэнтам нашых высілкаў. Пасля зможам паказваць ягоны візіт у прамоцыі Міхалова. Важна, каб улады розных узроўняў, пачынаючы ад прэзідэнта, ведалі аб тым, што самаўрадам трэба дапамагаць, каб маглі яны самі развівацца. Для нас неабходныя інвестыцыі з'яўляецца добрае спалучэнне Міхалова з Беластокам. Таксама малы памежны рух з Беларуссю ёсць шанцам развіцця для жыхароў.

Юры Васілюк, войт Чыжоўскай гміны, які год таму гасціў Браніслава Камароўскага, які сустрэўся там з жыхарамі і самаўрадаўцамі:

— Наша ініцыятыва, якая нарадзілася ў час яго візіту ў Чыжы, напаўняецца рэальным зместам. Факультэт архітэктуры Беластоцкай палітэхнікі канчае падрыхтоўку канцэпцыі, якая дазволіць выкарыстаць будынак па былой пачатковай школе ў Кленіках на патрэбы цэнтра беларускай культуры. Праз год узнікне тэхнічная дакументацыя і паплывуць першыя заявы на сродкі на гэтую мэту. **Ужо таксама наспеў час каб і ў гміне Чыжы з'явіліся двухмоўныя назвы мясцовасцяў. У найбліжэйшым часе Радай гміны будзе прынята рашэнне пра грамадскія кансультацыі ў той справе. Калі яшчэ не ў гэтым годзе, то ўжо ў наступным будуць яны праведзены.**

Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны:

— Чакаю ад пана прэзідэнта падтрымкі, каб межаў Белавежскага нацыянальнага парку не пашыраць. Важнай для нас з'яўляецца таксама справа малога памежнага руху з Беларуссю. Чакаю, што можа настолькі, наколькі можа прэзідэнт, спрабуе ён яшчэ раз пераканаць свайго беларускага партнёра.

Прэзідэнт Камароўскі, аднак, непасрэдна не ўспомніў у час свайго адкрытага для прэсы выступлення ў палатцы аб польска-беларускім малым памежным руху. Пасля прэзентацыі зроблены парай прадстаўнікоў няўрадавых арганізацый (займаючыхся шматкультурнасцю) сказаў у гэтай часткі сустрэчы:

— Не адразу Кракаў збудавалі, ды я глыбока ўпэўнены ў тым, што ўзнік сталічны горад Кракаў дзякуючы згоднай працы, супрацоўніцтву, умеласці супольнай працы для супольнага дабра. (...) Сёння ўжо не варта распытваць, якой нацыянальнасці быў вавельскі цмок (...). Варта цешыцца, што ўзнік вялікі, прыгожы горад як доказ таго, што згода будуе (гэтыя словы — лозунг Браніслава Камароўскага з апошніх прэзідэнцкіх выбараў — М. Х.), згода паміж людзьмі, рознымі веравызнаннямі, нацыянальнасцямі, культурамі, рознай эмацыйнасцю і рознымі характарамі. Магу цешыцца, што Міхалова — ад трох гадоў горад, збудаваны ў выніку згоды. Згоды, якая пераадолявае бар'еры канфесій, нацыянальнасцей, культурнай адрознасці (...). Шматкультурнасць, калі ідзе за здольнасцю да супрацоўніцтва, можа быць незвычайна моцным механізмам росту і рэалізацыі імкненняў цэлых грамадстваў.

Пераконваў:

— Факт распалажэння пры мяжы можа ў будучыні аказацца вельмі карысным, будучым новы шанц, у новых умовах. Гэтага мы б сабе вельмі жадалі. На Міхалова можна з гэтага пункту гледжання глядзець ад захаду на ўсход і з усходу на захад, і гэта няпраўда, што вы з'яўляецеся апошняй гмінай Еўрасаюза, апошнім горадам ЕС. Вы з пункту гледжання вашых суседзяў на Усходзе — першая мясцовасць, першая гміна *(воплескі)*. Вы з'яўляецеся знакамітай візітнай карткай Падляшша, усяе Польшчы і ўсяе Еўропы. Гэта таксама ёсць прычына, якая можа выклікаць штораз большыя амбіцыі, імкненні і можа заахвочваць да вельмі сумленнай працы і сягання да новых магчымасцей.

Дзякуючы падляшскім няўрадавым арганізацыям прэзідэнт адзначыў:

— Працуючы для іншых, неабавязкова за вялікія грошы, але аддаючы сябе самога, уласныя эмоцыі і крэатыўнасць, можна працаваць над нацыянальнымі і рэлігійнымі падзеламі, над нялёгкімі падзеламі, якія нас таксама суствараюць. Згода ў Міхалове сапраўды будуе.

Жыхары маглі глядзець сустрэчу з самаўрадаўцамі і прадстаўнікамі няўрадавых арганізацый на тэлебіме пастаўленым вонкі палаткі. Толькі пасля завяршэння афіцыйнага спаткання прэзідэнт раздаў дзецям некалькі аўтографаў. Траплялiся таксама напісаныя на руках. Некаторым удалося зрабіць здымак з галавой краіны. Маці з дзіцём на руках пасля ад'езду прэзідэнцкага картэжу на хавала хвалявання:

— Ой, мы не толькі зрабілі здымак, але мой малы атрымаў таксама юбілейныя віншаванні, калі я сказала, што сынок якраз канчае пяць гадоў!

З рук бурмістра Назаркі яшчэ ў час сустрэчы ў палатцы прэзідэнт атрымаў статуэтку і званне „Арла Міхалова".



**Таісу Засім** з Мядзвядзёў і **Рафала Шыманюка** з Семяноўкі віншуе са шлюбам ды жадае ім бясконцага кахання і ўзаемаразумення ўся сям'я родам з Мядзвядзёў.

9 770546 196000



# Поўны парадак

Грыбы растуць там, дзе ім захочацца. Здавалася б, нікому яны замінаць не могуць у прынцыпе. Растуць сабе, і хай растуць. Ды вось не. Толькі не ў сённяшняй Беларусі. Сёння ў Беларусі кожны мусіць ведаць сваё месца. Нават грыбы.

Выйшаў я з ранку з хаты, іду на прыпынак. Гляджу як пасаджаныя некалі мной дрэўцы сустракаюць цёплую задумлівую восень пачынаючым жаўцець лісцем. Хараство! І раптам бачу, паміж стромкіх бярозак павылазілі грыбы. Маладзенькія такія, харошанькія. Аж вачам стала весела. Добрая восень, думаю, выдалася. Цёплая, грыбная. Мала таго, што людцы цэлымі вёдрамі цягаюць грыбы з лесу, дык яны яшчэ тут павыпаўзалі і цешаць позірк чалавечы.

Але не доўга цешылі. Раптам з'явіліся два прыбіральшчыкі ў сваіх фірмовых камізэльках. Мужчына і жанчына. Брудна вылаяўшыся матам мужчына нагамі пазбіваў грыбы, а жанчына сабрала іх і выкінула ў сметніцу.

— Нашто вы грыбы пазбівалі і выкінулі? — пытаюся.

— А што з імі рабіць, — адказваюць. — Есці іх нельга, бо ля дарогі растуць. Атруты ўсялякай панабіраліся ад машын. З'ясі і здохнеш яшчэ.

— Дык нашто тады панішчылі іх, — не магу ўцяміць я. — Хай бы раслі сабе. Хораша было. Душа радавалася глядзець на іх.

— Нельга ім тут расці, — уладным і безкампрамісным голасам адказаў мужчына. І вылаяўся зноў. — Непарадак гэта. Ад мяне начальства патрабуе каб усё чыста было. А я не паспею прыбраць, як гэтыя паганыя грыбы зноў вырастаюць. Усю маю працу марнуюць.

— Грыбы гэта не смецце, — кажу яму. — Наадварот, прыгажосць. Што калі кветкі вырастуць, таксама павыдзіраеце?

— Ясна што павыдзіраю, — здзіўлена глядзіць ён на мяне, як на вар'ята. — Парадак павінен быць, разумееш. Парадак. Я на тое і пастаўлены тут, каб за парадкам сачыць.

Успомніўся мне тады адзін старэйшы прапаршчык, з часоў маёй службы ў савецкім войску.

— Парадак, — казаў ён, — гэта галоўнае ў войску. Салдат можа не ўмець страляць, але хадзіць у нагу і правільна запраўляць ложак мусіць. Гэта для салдата галоўнае. Каб парадак быў. Вайна херня. Галоўнае парадак. — І дадаваў. — Я вам растлумачу, што такое парадак. Калі заходзіш у казарму і бачыш, што ўсе ложкі запраўленыя правільна, усе падушкі стаяць роўненька, і толькі на адным ложку ляжыць куча дзярма, то гэта страшны непарадак. За такое караць трэба бязлітасна. Прычым усіх, а не толькі ўладальніка таго ложка. А вось калі на кожным ложку ляжыць па кучцы дзярма, то тады гэта парадак. Галоўнае, каб дзярмо ляжала роўненька і аднолькава на кожным ложку.

А быў жа і ў нас так званы беспарадак. На пачатку дзевяностых. Калі людзі глынулі свабоды. Да кіёскаў з газетамі стаялі доўгія чэргі. Паўсюдна людзі насіліся з торбамі, каб зарабіць на свой бізнес. Мітынгі праходзілі, пікеты. Кожны рабіў тое, што хацеў давесці да грамадства, або тое, што хацеў зрабіць сабе. Кветкі і грыбы нікому не перашкаджалі тады. І вось, усяго за няпоўных дваццаць гадоў навялі ў краіне поўны парадак. Асабліва ў галовах.

Выйшаў неяк Валодзя Хільмановіч з машыны ў Моўчадзі, каб царкву сфатаграфаваць. Спадабалася яна яму. Ён увогуле любіць архітэктуру зафіксаваць. І раптам нейкая цётка ўгледзела ў гэтых дзеяннях непарадак.

— А што гэта вы тут робіце?! — Стала яна на абарону парадку. — Наш старшыня не любіць як тут фатаграфуюць.

Вось так. Парадак павінен быць поўным. Не толькі мітынгі апазіцыі нельга фатаграфаваць, але і нічога нельга. А фотаапарат можна набыць для прыгажосці.

— Што гэта ты гэкаеш, — раве на рыку нейкая маманя ў ласінах нацягнутых толькі на палову задніцы. — Трэба „г" гаварыць правільна (з расійскім акцэнтам тая правільнасць у яе разумені). А ты гэкаеш. Няправільна гэта. Непарадак. Будзеш гэкаць то ў школу цябе не возьмуць.

І так на кожным кроку. Як хутка да парадку людзей прывучыць можна, аказваецца. Да поўнага парадку. Каб нават грыбы ведалі сваё месца, і не раслі дзе ім хочацца.

А людзі дык увогуле, могуць пакласці сабе ў кожны ложак па аднолькавай кучцы дзярма, і цешыцца з гэтага поўнага парадку.

Віктар САЗОНАЎ



# Не быць скотам

„Ляпіс Трубяцкой"?! Ці хтось з чытачоў чуў аб новых канцэртах гэтай беларускай рок-групы? Але не ў Расіі ці дзе-небудзь па-за Беларуссю. У самой Беларусі?

Чаму пра гэта пытаюся? Прыгадаю, у чым справа. Больш-менш праз некалькі тыдняў пасля абвяшчэння вынікаў выбараў на прэзідэнта Беларусі і абвяшчэння пераможцам Аляксандра Лукашэкі, які прэзідэнтам быў, ёсць і будзе, і таму беларусы не маюць іншага выйсця, як толькі пакласці вушы па сабе і прытварацца што нічога страшнага не сталася, або ад страху заступкаць у першы бліжэйшы лагер, бо ж тамака апынуцца раней ці пазней — за яго брамай. Сяргей Міхалёк, лідар гурту „Ляпіс Трубяцкой" знайшоў яшчэ адзін выхад. Збунтаваўся, не хаваючы знеахвочання да новага, хаця дзіўна знаёмага прэзідэнта, смела назваў яго ілгуном, злачынцам і невукам. Гэтыя словы, будучыя часткай інтэрв'ю якое даў, былі, вядома, апублікаваны. Зараз пасля таго пракуратура пачала супраць яго следства, але, што дзіўна, вядучы справу пракурор публічна палічыў, што гэтыя словы не выяўляюць „грамадскай пагрозы". Усё ж такі выклікаў Міхалька на допыты. Той знюхаў урэдны падвох улад і свіснуў у Расію. У выніку таго „Ляпіс Трубяцкой" трапіў на чорны спісак гуртоў забароненых у дзяржаўных беларускіх СМІ. У адказ на гэта лідар гурту прыняў удзел у сарганізаванай тэлебачаннем БелСАт акцыі салідарнасці з палітвязнямі. На гэта ўлады адказалі забаронай канцэртаў раней ужо заканТрактаваных у шмат якіх беларускіх гарадах. Разлаваны такім трактаваннем „Ляпіс" даў згоду выступіць у расійскім тэлебачанні, адбыў таксама гастролі па Расіі і Украіне. Адзінае, што маглі на гэта адказаць беларускія ўлады, дык набраць вады ў рот. Наступіў перыяд цішыні, за якой хаваецца — аб чым ведаюць старыя франтавікі — перагрупоўка сілаў праціўнікаў. Неўзабаве ў рэпертуары гурту „Ляпіс Трубяцкой" апынуўся незвычайны твор, аснаваны на вершы беларускага паэта Янкі Купалы „Хто ты гэткі?". Рокмены, захоўваючы ўсе словы арыгінальнага тэксту, змянілі толькі яго загаловак на „Не быць скотам", ад слоў канчаючых верш. Першы раз выканалі яго ў верасні 2011 г. у час канцэрта ў Пецярбургу, а зняты ў Кіеве тэледыск апынуўся на You Tube, маючы да сёння па пару тысяч уключэнняў. Пару месяцаў пазней беларуская пракуратура афіцыйна адмовілася ад следства ў справе абразы прэзідэнта Лукашэнкі. Кажуць, быццам бы ўлады заахвочвалі гурт да ўзнаўлення канцэртаў у Беларусі. Ці, аднак, да гэтага дайшло?



Верш Янкі Купалы „Хто ты гэткі" ўзнік у 1908 годзе, у час, калі нараджалася беларуская нацыянальная свядомасць і з'яўляецца своеасаблівым, не без сарказму, адказам Купалы-беларуса на „**Katechizm młodego Polaka**" Уладыслава Бэлзы. А трэба ведаць, што таго „катэхізісу" польскія дзеці былі вучаны ад наймалодшых гадоў, найчасцей сваімі матулямі. Дзякуючы гэтаму словы верша набіралі моцы пакаленневага пераказу. Што больш, да сёння чуваць у шмат якіх дзіцячых спальнях вызубраныя пацеры палітычнага ўздыму: ***Kto ty jesteś? Polak mały...*** Як жа горка гучаць у гэтым кантэксце словы Купалы... Сяргей Міхалёк сцвярджае, што паэт запісаў у ім гісторыю ўсяго народа. *Што цікава*, — сказаў пару месяцаў таму ў размове з БелСатам, — *што Купала можа падказаць беларусам што рабіць і як жыць таксама сёння* (...).

Хто ты гэткі? — Свой, тутэйшы. Чаго хочаш? — Долі лепшай. Якой долі? — Хлеба, солі. А што болей? — Зямлі, волі. Дзе радзіўся? — Ў сваёй вёсцы. Дзе хрысціўся? — Пры дарожцы. Чым асвенчан? — Кроўю, потам. Чым быць хочаш? — Не быць скотам.

Міраслаў ГРЫКА

**Вачыма еўрапейца**

# Усходняе вымярэнне



— Гэта чарговы крок перакіравання польскай культурнай дыпламатыі на Усход. У значнай ступені ад нас залежыць, як гэта выкарыстаем, — да такой высновы дайшоў Кшыштаф Чыжэўскі, шэф Асяродка „Пагранічча — мастацтваў, культур, народаў" з Сейнаў, адной з устаноў падлягаючых Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства, на сустрэчы з працаўнікамі польскіх пасольстваў і консульстваў, займаючыхся справамі прамоцы, культуры і навукі ды дырэктарамі Польскіх інстытутаў. Два дні з трох дэбатавалі яны ў Беластоку. Ад 3 верасня якраз у падляшскай сталіцы адбылася нарада публічнай дыпламатыі (згодна з вызначэннем, займаецца яна „уздзеяннем сацыяльных адносін на фармаванне і рэалізацыю замежнай палітыкі", у рамках якой адбылося некалькі дыскусій, а адна з іх прысвечаная была польскай усходняй палітыцы ды інструментам яе рэалізацыі. Яшчэ да візіту, прэс-сакратар МЗС у спецыяльным камюніке напісаў: „Візіт у Беласток у будучыні дасць плён важнымі праектамі рэалізаванымі супольна з лакальнымі ўстановамі".

— Сустракаемся штогод, каб супольна задумацца над тым, што найлепшага з Польшчы паказваць і як размаўляць аб нашай краіне за мяжой, — сказала журналістам пасля размоў з вядучымі культурныя ўстановы на Падляшшы Іаанна Скочак, дырэтарка Дэпартаменту публічнай і культурнай дыпламатыі МЗС.

Удзельнік дыскусіі працаўнікоў МЗС падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня сеймавай камісіі замежных спраў і старшыня парламенцкай групы па справах Беларусі, пераконваў у кулуарах журналістаў: „Праз культуру, навуку, СМІ можна ўплываць на мэты польскай замежнай палітыкі ва ўсходнім вымярэнні. Міжрэгіянальныя кантакты могуць вельмі добра служыць таму, каб прыцягнуць жыхароў Усходу да Еўропы".

Адзначыў:

— Абарона ўзроўню фінансавання Усходняга партнёрства гэта адно з найважнейшых заданняў. Такія рэгіёны як Падляшша гэтым моцна зацікаўленыя, таму што значная частка гэтых праектаў будзе рэалізавацца нашымі самаўрадамі, установамі культуры, СМІ.

У час закрытага для СМІ спаткання з іраўніцтвам культурных устаноў, прагучалі канкрэтныя прапановы супрацоўніцтва. Пакуль яны трымаюцца ў сакрэце.

Маршалак Яраслаў Дваканскі ў час прэс-канферэнцыі адзначыў: „Багацце шматкультурнасці гэтага рэгіёну мы павінны яшчэ больш паказваць і яго выкарыстоўваць".

Маршалак Дваканскі адказаў таксама на пытанні „Нівы", ці будзе спецыяльная праграма супрацоўніцтва Падляшша з памежнымі краінамі на Усходзе:

— У час працягваючайся цяпер мадэрнізацыі ваяводскай стратэгіі, выяўляецца паслядоўная праграма, у якой бачыцца нашае памежнае распалажэнне. Мусім запісаць у ёй праграму развою культурных кантактаў.

Дэпутат Тышкевіч дадаў:

— Гаворка тут аб неабходнасці ўзнікнення традыцыі супрацоўніцтва паміж культурнымі арганізацыямі. Таксама і аб тым, каб рэалізаваць супольныя праекты не толькі паміж, напрыклад, драмтэатрамі ў Беластоку і Гродне, але і аб тым, каб іх супольна рэалізаваць у Еўропе.

У сустрэчы прымаў удзел, м.інш., Вінцук Вячорка, адзін з лідараў беларускай апазіцыі, які сказаў журналістам, што беларуская меншасць можа выконваць важную ролю, каб Падляшша было памостам спалучаючым з Усходам.

Працаўнікі МЗС у час побыўкі ў Беластоку наведалі супрасльскі тэатр „Вершалін" і Музей ікон у Супраслі, паглядзелі беластоцкі Цэнтр імя Людвіка Заменгофа і мастацкую галерэю „Арсенал", былі ў Падляшскай оперы і філармоніі, пазнаёміліся з адным з рэпартажаў Мікалая Ваўранюка і спектаклем „Падляшскія хронікі. Ой даўно, даўно", падрыхтаваным Згуртаваннем „АБ-БА".

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Высакародны бег у Новай Волі


Другі злева бяжыць пераможца — Адам Супінскі


А. Яраслаў Шчэрбач, д-р Павел Грабоўскі , Міраслава Антановіч і Магда Юрчук

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

Не толькі для спорту, але і для высакароднай мэты 18 жніўня ў Новай Волі ў Міхалоўскай гміне бегуны змагаліся ў I Падляшскім дабрачынным паўмарафоне. Найбольш пры арганізацыі паўмарафона „набегаліся” старшыня Фонду Падляшскі анкагалічны госпіс доктар Павел Грабоўскі, яго намеснік а. Яраслаў Шчэрбач і Магда Юрчук, каардынатар дзейнасці госпісу. Іхняя адданая і харызматычная дзейнасць выклікала водгук у шматлікіх спонсараў і валанцёраў. Грошы з рэгістрацыйнага ўзносу (зарэгістраваліся 221 бегун, пабеглі 130) прызначаны на падтрымку дзейнасці мясцовых майстар-класаў па працатэрапіі ды на развіццё хатняга госпісу.

Арганізатар — няўрадавая арганізацыя Фонд Падляшскі анкалагічны госпіс, мэтай якога з'яўляюцца ўсе дзеянні дзеля годнага жыцця ў хваробе і годнага памірання, арганізаванне і надзялянне комплекснай апекі, між іншым медыцынскай, духоўнай, псіхалагічай, сацыяльнай дарослым асобам у тэрмінальнай стадыі хваробы, асабліва ракавай, ды невылечна хворым, надзялянне дапамогі сем'ям і абучанне іх выконванню апекі над хворым у зыходнай стадыі хваробы, застаючыміся дома і ў госпісе, падтрымка сем'ям асірочаным і хворым, адукацыя лакальнай грамадскасці, хворых і іх сем'яў, навучанне ідэі госпіснай апекі і павагі для жыцця. Апекай госпіс ахапляе Міхалоўскую, Гарадоцкую, Нарваўскую, Нараўчанскую і Заблудаўскую гміны.

— Памагаем трыццаці асобам з абмежаванымі магчымасцямі. У шасці майстэрнях праводзяцца кулінарныя, кравецкія, мастацкія і рукадзельныя заняткі. Нашы падапечныя прыбіраюць агарод, самі рыхтуюць стравы. Такія асобы вучацца як спраўляцца ў жыцці, як афармляць розныя справы. Дзякуючы гэтаму маюць яны кантакт з людзьмі, адчуваюць сябе патрэбнымі ў грамадстве, — тлумачыць бацюшка Яраслаў.

— Пакуль лекары апякуюцца некалькімі хворымі ў іх дамах. Магчымасцей і сіл маем на больш, на жаль, не хапіла гэтага, каб Нацыянальны фонд здароўя падпісаў дамову з нашым госпісам. Ад чэрвеня дзейнічаем на грамадскіх пачатках. Два разы ў тыдзень хворых наведваюць нашы медсёстры, а два разы ў месяц — лекары, — кажа Марта Юрчук.

— Падтрмылваюць нас сем'і, спонсары і іншыя цудоўны людзі. Без іх дапамогі цяжка нам было б утрымаць госпіс. Лякарствы, перавязачныя матэрыялы, медычнае абсталяванне — усё ж каштуе.

— Будзем старацца за кантракт, але пакуль мацуемся дзейнічаць самастойна. Не можам чакаць. Удалося, дзякуючы грошам з аднаго працэнта — з усёй Польшчы назбіралася 35 тысяч злотых. Ды на месяц неабходна прынамсі 7 тысяч. Можа, справімся без НФЗ?.. Раскручваемся. Думаю, што з кожным днём будзем памагаць большаму ліку асоб. Мы як хатні госпіс падтрымліваем не толькі тых, што адыходзяць, але і іх сем'і. Мне асабіста марыцца тут цэнтр паліятыўнай апекі, але гэта песня далёкай будучыні, — прызнаецца доктар Павел Грабоўскі.

— Чаму НФЗ адкінуў прапанову нававольскага госпісу? У мінулагоднім конкурсе падалі мы прапановы ў НФЗ у двух абсягах: хатняга госпісу і амбулаторыі паліятыўнай медыцыны. Абедзве прапановы былі адкінуты, паколькі не выконвалі мінімальных патрабаванняў наконт прылад і абсталявання. Конкурс выйгралі былі іншыя асяродкі з сядзібай у Беластоку, а іхнія прапановы вычарпалі ўсю суму прызначаную на такую апеку. Падпісаныя дамовы абавязваюць да 2014 года.

— Хто сёння прымае ўдзел у паўмарафоне, выказвае салідарнасць з намі. Таму варта спрабаваць сваіх сіл, — дадае доктар Грабоўскі.

У паўмарафоне трэба прабегчы каля 22 кіламетры — гэта для дасведчаных бегуноў. Для менш дасведчаных і непаўналетніх арганізатары запланавалі сямейны бег — 4 200 метраў.

Артысты, аздабляючыя фэст, бегуны і іх сем'і атрымалі бясплатныя карнеты на басейн у Міхалове.

Для шмат каго з удзельнікаў бег быў чымсьці больш чым саперніцтвам. Уршуля Пастула з Варшавы:

— Я бягу для анкалагічнага госпісу, для таго, каб памагчы сабраць грошы, каб ён мог функцыянаваць, каб штосьці зрабіць для кагосьці. І змагаюся для маёй сяброўкі, якая якраз пераходзіць аперацыю рака грудзей.

Беглі аматары, члены спартыўных суполак, якія сваёй прысутнасцю хочуць адзначыць патрэбу і сэнс дзейнічання дабрачынных установаў. Сябры Руху „Спартанцы дзецям” бегаюць, каб падтрымаць наймалодшых. Сёння бягуць яны дзеля хворых ракам. Міхал Ляснеўскі, шэф спартанцаў:

— Мы аматары, але бегаем для выніку. Сёння мы бяжым, каб звярнуць увагу мясцовых улад і спонсараў, каб памаглі гэтаму госпісу.

Адным з задумшчыкаў Дабрачыннага паўмарафона ў Новай Волі, тут у ролі вядучага, спартыўнага каментатара, мадэратара і канферан'се ў адным быў марафонец з бязмежнай энергіяй доктар Міхал Суткоўскі з Варшавы:

— Патрэбы ўзрастаюць. Трэба камусьці купіць інвалідную каляску, трэба ўспамагчы госпіс, трэба сабраць грошы на аперацыю. Гэта заўжды канкрэтныя мэты або шмат канкрэтных мэт.

— Тры чверці шляху было на жвіровай дарозе, на Ялоўку. Вецер дзьмуў крыху ў спіну, але больш у твар, — прызнаецца ветэран бегаў Андрэй Зіневіч, які ўдзельнічаў у падобных да гэтай гонак 600 раз. — Можна вытрымаць! Калі хтосьці гэта любіць, а бяжыць для высакароднай мэты, якой з'яўляецца перадача грошай для госпісу, дык няма справы! Трэба спачуваць іншым людзям, хворым. А выступаюць і маладыя дзяўчаты, гляньце — аж жыць хочацца!

— Заявілася 130 асоб з 221, шмат прыбыло асоб, сем'яў, заўзятараў, ахвотных пабыць на сямейным фэсце. Шмат моладзі і старэйшых прыйшлі да нас памагчы як валанцёры, нават зусім маленькія, — цешыцца доктар Грабоўскі. — Гасцямі фэсту з'яўляюцца тэатр чорнабелых форм „Пляма” з Сувалкаў, „Калінка” з Залук, капэла з Ялоўкі, „Зараніца” з Крынак, „Незабудка” з Міхалова, дуэт з Міхалова, рок-гурт „Гаўст” з Варшавы. Падмацоўку з лакальнымі стравамі падрыхтавала „Гаспода” ў Міхалове, татарская кулінарыя прывезена была з Татарскай юрты ў Крушынянах. Лячэбны і рэаблітацыйны масаж выконваюць вучні, выпускнікі і настаўніцы з беластоцкай школы „Эдуцэнтрум”. Сустрэчы з цікавымі людзьмі з нашага рэгіёна адбываюцца пад палаткай з Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове. У час фэсту можна пазнаёміцца з прыгажосцю рэгіёна і людзей у ім пражываючых. Да змагання разаграваюць міхалоўскія „Прымакі” з Юркам Астапчуком, якому мы вельмі ўдзячныя за падтрымку. Ёсць перасоўны фатограф, дзе можна адразу атрымаць адбіткі здымкаў. Праводзіцца аўкцыён мастацкіх прадметаў, вельмі прыгожых, выраблены удзельнікамі майстар-класаў. Малыя валанцёры збіраюць грошы ў адмысловыя карабчакі, якія памалу запаўняюцца аж пад вечка.

Кожны госць хацеў нейкім чынам дакласці свой грошык да высакароднай мэты. А гасцям з усяе Польшчы вельмі даспадобы быў амаль чыста беларускі фэст. Пачаўся ён песняй гурту „НРМ”, якая абяцала, што... „сюрпрызаў не будзе”. Найбольш спадабаліся гледачам „Прымакі”, „Калінка” з Залук і „Зараніца” з Крынак, усе ў беларускіх строях. Па-беларуску была апранута таксама Міраслава Антановіч з Гарадка, якая паказала выстаўку сваіх карцін-вышыванак. Былі беларускія паэты Анатоль Парэмбскі і Тадэвуш Кунцэвіч, паказаны былі выданні тыднёвіка „Ніва”, рукадзеллем хваліліся майстрыхі з суседняй Нараўчанскай гміны Галіна Бірыцкая і Малгажата Краўчык.

Перамаглі ў паўмарафоне Адам Супінскі з вёскі Пратасы (КС „Падляссе”



Беласток), які прабег шлях 21 097,50 м у 1 гадзіну, 29 хвілін і 25 секунд перад Багумілам Янішэўскім (Беласток), Юзафам Андрэйчуком (Беласток), Тамашом Балданом (Касматы Барок), Камілем Жукоўскім і Яраславам Янюком (Беласток). Сярод жанчын перамагла Уршуля Пастула (Варшава — вынік 1:50:17), перад Аннай Карманскай (Катавіцы), Даротай Барташэвіч (Гайнаўка), Верай Стасевіч (Гайнаўка), Уршуляй Гаштолд (Беласток). У сямейным бегу 4 200 метраў першым быў Матэвуш Дэдэрка (00:18:37) перад Мар'юшам Пятровічам, Паўлам Монахам, Эдмундам Лапуцем з Беластока, Клаўдзіяй Дросла (Варшава), Пятром Намётам (Беласток) і Луцыяй Вавер (Прасткі). Праз год — другі выпуск Падляшскага дабрачыннага паўмарафона ў Новай Волі і аколіцы!

## Як гарох аб сцяну

У 22-м нумары „Нівы” ад 27 мая пісаў я пра гмінную дарогу з вёскі Бялкі ў вёску Сакі, што ў Нарваўскай гміне. Яна вызначана геадэзістамі, даўжыня яе каля двух з паловай кіламетра, а шырыня пятнаццаць метраў. Калі Надлясніцтва Жэдня садзіла лес, садзільнікі не зважалі на геадэзічныя капцы і так той лес пасадзілі, што ў некаторых месцах цяжка размінуцца дзвюма легкавушкамі, а каля саміх Сакоў большая частка дарогі зарасла вязамі, так што складана праехаць.

У 23-м нумары „Нівы” ад 3 чэрвеня пісаў я пра дарогу, якая з вёскі Бялкі вядзе цераз лес у вёску Гозна, што ў Міхалоўскай гміне; яе шырыня дванаццаць метраў, а ў лесе ад яе адыходзіць шасціметровай шырыні дарога ў вёску Патока. У трохстах метрах ад гравейкі каля стометравы кусочак тае дарогі так разбіты, што цяжка тудою праехаць.

У 24-м нумары „Нівы” ад 10 чэрвеня пісаў я пра загуменную дарогу ў Бялках, якая патрабуе неабходнага рамонту. Жвіровы кар'ер на месцы.

У 27-м нумары „Нівы” ад 1 ліпеня быў змешчаны мой допіс „З гісторыі будынкаў у Бялках”, дзе многа месца было адведзена будынку па былой злеўні малака, адкупленым уладамі Нарваўскай гміны ад Малочнага камбіната ў Гайнаўцы, і перададзеным солтысу вёскі Бялкі пад вясковую святліцу. Гэты будынак рамантавалі ўжо некалькі разоў, але заканчэння рамонту не відаць. Там трэба як найхутчэй памяняць дзверы з жалезных на драўляныя каб мышы і пацукі не праходзілі бесперашкодна, трэба памяняць печку, г.зв. казуды прыдбаць крэслы або лавы.

На ўсе мае гэтыя допісы ніхто не адгукнуўся, быццам усе вады ў рот набралі і маўчаць. Не адазваўся ніхто ні з вясковай рады, ні з гміннага самакіравання.

Падумайце, даражэнькія, не саромцеся, каб вас людзі не праклінаілі, гэта ўсё належыць да вашых абавязкаў: і непраезныя дарогі, і прыгожая ўтульная цёпленькая вясковая святліца.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Лепшыя дарогі

Летам наглядаецца вялікі рух пры будове і мадэрнізацыі маставых на павятовых дарогах у Нараўчанскай гміне.

— Ужо закончылі мы асфальтаванне звыш паўтаракіламетровай дарогі з Леснай у Альхоўку, — кажа намеснік старасты Гайнаўскага павета Андрэй Скепка. — Мадэрнізавалі ўхабістую асфальтовую маставую з Нараўкі ў Міклашэва. У пачатку жніўня пакладзены асфальт на вуліцы ў вёсцы Сушчы Барок. Мае яна 700 метраў даўжыні.

Варта дадаць, што Сушчы Барок знаходзіцца на павятовым шляху з Нараўкі ў Падляўкова цераз Мінкоўку.

**(яц)**

## Папраўка

У артыкуле Мацея Халадоўскага „Хрысціны ў Махнатым” („Ніва” № 37 ад 9 верасня 2012 г.) намі была дапушчана памылка. Войт Гайнаўскай гміны спрэзэнтавала спевакам не *тогі* толькі **торт**. Сказ, у якім была дапушчана памылка, павінен гучаць так: „Вось Вольга Рыгаровіч, войт Гайнаўскай гміны, спрэзэнтавала торт і абяцала задбаць пра грошы на далейшую дзейнасць калектыву, бо, як казала — такі ў ім запал”. За памылку просім прабачэння ў аўтара і чытачоў.

**Рэдакцыя**




Пераможцы конкурсу на самыя прыгожыя панадворкі ў Арлянскай гміне (злева — лаўрэаты І месца Мікола і Наталля Мартыновічы з Рудутаў, справа — войт Пётр Сэльвесюк)

# Фэст у беларускай гміне

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Арлянская гміна — адзіная ў Польшчы з указальнікамі на польскай і беларускай мовах. У час папярэдняга перапісу насельніцтва (невядомыя вынікі апошняга перапісу ў пераліку на паасобныя гміны) апынулася яна сярод трох нашых гмін, у якіх самы вялікі адсотак жыхароў заявіў прыналежнасць да беларускай нацыянальнасці (каля 69%). Ужо традыцыяй стала ладзіць у Орлі і навакольных вёсках беларускія мерапрыемствы. Апошняя вялікая імпрэза ў рамках «Спасаўскіх запустаў» адбылася ў Дыдулях.

Сёлетні Беларускі народны фэст «Арлянскія сустрэчы» (раней называўся Фэстам беларускай культуры), які 2 верасня адбыўся перад будынкам былой яўрэйскай сінагогі, арганізаваў мясцовы самаўрад. Удалае мерапрыемства прыцягнула мясцовых людзей і жыхароў суседніх гмін. Сярод гасцей былі, між іншым, пасол Рэспублікі Беларусь у Варшаве Віктар Гайсёнак і консул РБ у Беластоку Аляксандр Сувораў, дэпутат Сейма Роберт Тышкевіч, падляшскі ваявода Мацей Жыўна і падляшскі віцэ-маршалак Валянцін Карыцкі, святары, самаўрадаўцы Бельшчыны і Гайнаўшчыны, прадпрымальнікі.

— Беларускі фэст запрацаваў ужо на сваё вялікае значэнне ў рэгіёне. На адным з нашых фэстаў мы налічылі звыш тысячы сабраных. Сёння таксама сабралася многа людзей, — заявіў войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк.

Адкрываючы мерапрыемства войт звярнуў увагу на інвестыцыі ў гміне ў апошнім годзе. Была, між іншым, заасфальтавана дарога ў Паўлінова і зараз да ўсіх мясцовасцей Арлянскай гміны можна даехаць па асфальтавых дарогах. На базе спортпляцоўкі «Орлік» разбудоўваецца спартыўны школьны комплекс у Орлі. У самым гмінным цэнтры будуецца каналізацыя.

— Мы, жыхары, ствараем сваю гміну. Не было б магчымым тое, што адбываецца ў гміне, без ангажаванасці мясцовага насельніцтва, — сказаў войт Пётр Сэльвесюк, звярнуўшы ўвагу на прамоцыю беларускай культуры і традыцыі.

— Вельмі добра, што ў нашай Орлі ладзіцца беларускі фэст, бо ж беларуская культура нам родная, наша, уласная. Відаць, што людзі задаволеныя сённяшнім мерапрыемствам. Я амаль ад пачатку співаю беларускія песні ў калектыве «Арляне». Нашыя людзі станоўча ацэньваюць устанаўленне ўказальнікаў з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах. Жывуць тут беларусы і маем права такія ўказальнікі ставіць. Я ў Літве бачыла двухмоўныя дошкі, то чаму ж у нас не пакарыстацца такімі прывілеямі, — сказала Ніна Гаўзэ з Орлі.

Фальклорны калектыў «Арляне» з Орлі пасля афіцыйнага адкрыцця мерапрыемства выступіў першым і атрымаў ад публікі гарачыя апладысменты. «Арляне» — візітная картачка гміннага цэнтра і адначасна адзін з найстарэйшых беларускіх самадзейных калектываў у Польшчы, якія расспяваюць перш за ўсё беларускую песню і беларускую культуру. Чарговы арлянскі калектыў «Вервачкі» выступіў крыху інакш, чым народныя калектывы і зацікавіў публіку адметнасцю прэзентаванага рэпертуару пад народныя інструменты. На сцэне запрэзентаваўся таксама школьны калектыў «Без энду» і дзявочы дуэт з эстраднымі песнямі.

— Мы выступаем на беларускім фэсце штогод. Нам падабаецца атмасфера мерапрыемства, — заявіла Марыя Нічыпарук з калектыву аўтэнтычнага фальклору «Малінкі» з Маліннік. — Наш калектыў папоўніла некалькі новых асоб і я думаю, што гэта дазволіць нам спяваць надалей.

Марыя Нічыпарук да выступу працавала ў палатцы, дзе жанчыны з Арлянскай гміны падрыхтавалі рэгіянальныя стравы, якімі ўдзельнікі фэсту маглі частавацца. Былі там між іншым мясныя вырабы, хлеб, пірог і свае булачныя вырабы. Палатку з рэкламнымі матэрыяламі і рэгіянальнымі стравамі паставіла таксама Чыжоўская гміна, а ў палатцы Белавежскай гміны царыў мёд. Дзеткі гулялі ў дзіцячым гарадку, а для наймалодшых можна было купіць цацкі і ласункі.

— Беларускі народны фэст — свята беларусаў. Беларуская мова, музыка і спевы па-беларуску ад шчырага сэрца паказваюць, што яшчэ трымаецца тут беларуская культура, — сказаў пасол РБ у Польшчы Віктар Гайсёнак.

— Я з захапленнем гляджу на новыя дасягненні Арлянскай гміны, якія бачны простым вокам. Ты — як зубр — адважна крочыш самаўрадавымі дарогамі, — пахваліў арлянскага войта чыжоўскі войт Юры Васілюк і ад імя самаўрадаўцаў Гайнаўшчыны ўручыў Пётру Сэльвесюку драўляную статуэтку зубра — сімвал Белавежскай пушчы і Гайнаўскага павета.

«Чыжавяне», «Падляшская капэла» з Сямятыч, «Арт-Пронар» з Нарвы, «Ас» з Беластока, «Маланка» з Бельска-Падляшскага і «Прымакі» з Міхалова запрэзентавалі многа цікавых беларускіх песень.

З прафесійнымі спявачкамі Фальклорнай групы «Купалінка» Беларускай дзяржаўнай філармоніі з Мінска размаўляў я ўжо раней, у час ліпеньскага фэсту ў Новым Корніне. Тады яны звярталі ўвагу на добры кантакт з публікай на Беласточчыне. Як у Корніне, так і ў Орлі выступы «Купалінкі» вельмі спадабаліся публіцы.

У час фэсту былі падведзены вынікі гміннага конкурсу на самыя прыгожыя панадворкі. Яго пераможцам сталі Наталля і Мікола Мартыновічы з Рудутаў. Другое месца занялі Анна і Марыюш Чарняўскія з Орлі, на трэцім месцы апынулася Антаніна Іванюк з Маліннік, а вылучэнне атрымала Марыя Богус з Маліннік.

— У нас шырокі, вялікі панадворак, а на ім прыгожа і цікава, многа кветак, дзве крынічкі з вадой, што нават праз акно можна лавіць рыбу, і лес. Мы не рабілі ўсяго гэтага пад конкурс, але каб прыгожа на панадворку было. А да конкурсу запрапанавала нам прыступіць нашая радная, — сказалі Наталля і Мікола Мартыновічы з Рудутаў.

— Наш беларускі народны фэст гэта нашае вялікае свята, нагода для сустрэчы ў адным месцы вялікай колькасці жыхароў гміны. Людзі маюць магчымасць паслухаць беларускія песні і пагаварыць з сабой. Мы перайменавалі «Арлянскія сустрэчы» з Фэсту беларускай культуры на Беларускі народны фэст. Цяперашняя назва больш супадае з прэзентацыяй нашай беларускай народнай музыкі і нашых традыцый, — сказала Анна Несцярук, дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі, якая ўдала вяла мерапрыемства.

Фэст закончыўся феерверкамі, якія рассвятлілі Орлю, і народнай забавай пад песні і музыку гурту «Вясна» з Беластока.



■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Дажынкі ў Нарве



Старосты Мажэна і Валянцін Садоўскія

Дзень да пачатку новага школьнага года на Падляшшы рушыў „дажынкавы марафон”, значыць, улады паасобных гмін арганізуюць свята ўраджаю. У папярэдняй „Ніве” пісалі мы пра дажынкі ў Кляшчэлях. Калі чытаеце гэты нумар „Нівы”, адбыліся ўжо м.інш. гарадоцкія дажынкі ў Залуках і заблудаўскія ў Рыбалах (аб іх у наступных нумарах). У нядзелю напярэдадні інаўгурацыі школьнага года заехалі мы ў Нарву, дзе на мясцовым стадыёне гулялі перш за ўсё пры беларускай музыцы. Перад забавай карагод прайшоў праз спецыяльна аздобленую браму стадыёна з нарваўскага цэнтра.

Аб тым, што засталося з дажынкавых традыцый, распавядала нам у час свята ў Нарве Ніна Грыгарук з Курашава Чыжоўскай гміны (калектыў „Незабудкі”):

— Такіх сапраўдных дажынак, як былі калісьці, дык ужо няма. Усё прападае. Не спяваюць на дажынкавых святах такіх песень як калісь у полі, калі зажыналі, выжалі ці спявалі гаспадру. Такое цяпер усё сучаснае, мадэрнае. Калісь карысталіся сярпамі, пасля косамі, а пазней коннымі жняяркамі, і было весела. Цяпер дык выйдуць у поле машынамі, за дзве гадзіны ўсё скосяць — і дахаты, перад тэлевізар! Няма як калісь — гаспадара, у якога ўсе збяруцца, а ён штосьці зафундуе і ўсе паспяваюць. Я вяду такі дзённік, у якім усе старыя песенькі запісваю. І бачу, што маім унукам тэта падабаецца. Мая ўнучка ахвотна заглядае ў яго, спявае ў беластоцкай „Калінцы”.

Вядома, дажынкі гэта прычына для падвядзення жніва. Нарваўскі войт Андрэй Пляскові́ч:

— Глядзеўшы на вынікі ўсіх нашых гаспадарак, год не лічыўся лёгкім. Харчовая пшаніца надаецца ў большасці для памолу, на корм. Нашу гміну абмінулі град, буры. Аднак і так атмасферныя ўмовы не дазволілі сабраць багаты ўраджай. Мусім гэта прыняць з пакорай. Гэта вышэйшая сіла.

Традыцыйна старостамі ў Нарве сталі праваслаўныя і каталіцкія сялянскія сужонствы. Каталіцкім старостам быў Міраслаў Шэлянговіч, які больш за трыццаць гадоў з'яўляецца солтысам вёскі Агароднікі:

— Наша гаспадарка лічыцца сярэдняй у гміне, таму што гэта больш за 120 гектараў усіх угоддзяў. Спецыялізуемся ў жывёлагадоўлі малочных кароў плюс адкормка. Гэта сямейная гаспадарка. Не займаюцца ў нас чужыя асобы. Гэты год спачатку прадбачваўся вельмі пазітыўна. Пасля веснавых ападкаў было суха і збожжа прыгожа рушыла ўверх. На жаль, у час жніва надвор'е паказала, як умее напсаваць. Калі гаворка пра мяне, я паспеў управіцца са жнівом да канца ліпеня. Не даў рады толькі з паўтарагектарам, на які не змагла ўехаць машына.

Дадаў:

— Я ведаю такія гаспадаркі, якія маглі зжаць ужо з канцом ліпеня, ды збожжасховішчы ў Беластоку не былі адкрытыя. Дасюль не маюць куды ўвапхнуць збожжа. Агульна такая гайданка. Няма ў сельскай гаспадарцы стабільнасці. Цэны раз вышэйшыя, раз ніжэйшыя.

Большым аптымістам быў праваслаўны староста Валянцін Садоўскі (жонкастарасціна — Мажэна) з Храбустоўкі. Гаспадарыць ён на 50 гектарах уласных, да таго мае яшчэ 10 гектараў у арэндзе. Вядзе з жонкай птушкаферму — па 50 тысяч штук у адным вытворчым цыкле.

— У мяне — знакаміта. Ураджай быў вельмі добры, найлепшы за апошнія ўсе гады. Ураджайнасць азімай пшаніцы склала да сямі тон, трыцікале — да сямі тон. Поўныя склады, і я вельмі задаволены. Пакуль што ўсё складваецца ў сілясных вежах і не будзе праблем са збытам. Чакаем толькі добрых цэн. За пшаніцу павінна быць 100 зл. за цэнтнер, а цяпер плацяць каля 90 злотых.

Вядома, як і належыць дажынкам, удзельнічалі ў іх настаяцелі абодвух прыходаў. Настаяцель праваслаўнага прыхода а. мітрат Васіль Рошчанка, у якога мы спыталіся, як жывецца яго прыхаджанам у Нарваўскай гміне, жартаўліва адказаў:

— Не ведаю, ці хтосьці з іх запісаўся да „Амбер-Голд”. Калі так, дык такому будзе цяжка ўжо да канца жыцця. У самой Нарве няма гаспадароў. Ёсць у Храбустоўцы ці Ваневе. Тут, у Нарве, няма нават малачарні, таму што кароў практычна няма. Людзі жывуць на пазыках. І вернікаў штораз менш. Паміраюць або выязджаюць. Па вёсках больш хатаў закрытых, чым адчыненых. Нават кветак на дажынкавых вянцах менш, бо і на палях штораз менш.

Паявіўся на дажынках у Нарве дэпутат Яўген Чыквін. Чаму прыехаў?

— Таму што люблю Нарваўскую гміну. У тадышнім, выбарчым годзе, я таксама тут быў. Калі б сёлета я сюды не прыехаў, людзі падумалі б, што з'яўляюся толькі перад выбарамі, як іншыя дэпутаты. Тады ў Дубічах „на Івана на Купала” было васьмёх дэпутатаў, а сёлета — толькі я адзін.

Дажынкавы канцэрт вяла Марыёля Герман, выпускніца Гайнаўскага белліцэя, цяпер студэнтка факультэта крызіснага кіравання Акадэміі нацыянальнай абароны ў Варшаве:

— Я не беларуска. Люблю, аднак, беларускую мову, таму выбрала гайнаўскі белліцэй. Як аказалася, заняткі па беларускай мове прыдаліся, таму што вяду мерапрыемствы на гэтай мове. Сваю будучыню будую, абапіраючыся на яе. Не шкадую таго выбару!

Старосты перадалі на рукі войта буйны бохан хлеба. Былі конкурсы качання цюкаў, перацягвання каната, на найлепшую выпечку. Новая дырэктарка Нарваўскага цэнтра культуры Анна Смактуновіч заахвочвала наведаць мясцовыя касцёл і царкву, Музей вёскі і Беларускую рэгіянальную хату ў Скарышэве. Наведанне Беларускай хаты магло б быць апошнім такім шанцам. Вядучы яе Міхал Філяновіч паскардзіўся „Ніве”:

— Я сабраў больш за дзве тысячы экспанатаў звязаных з беларускай культурай, сельскай гаспадаркай, рыбалоўствам, пчалярствам, сабраў адзенне, дакументы і мноства ўсяго іншага. Сарганізаваў пяць фэстаў. Быў у старостве, быў у Маршалкоўскай управе, і ніхто не хоча мне памагчы. Хатай павінны заняцца адпаведныя ўстановы. Сам войт па меры магчымасцей памагае, ды гміна бедная. Не патрабую грошай, ды маглі б памагчы выдаць нейкія буклецікі, паставіць шыльды пры экспанатах. Аднак нікога гэта не цікавіць. Усё гэта не мае сэнсу.

Пры нарваўскім стадыёне можна было пабачыць выставы жывапісу і гафту навакольных творцаў. Каза Разалька з Сушчага Барка заахвочвала сваёй грацыёзнасцю пакаштаваць хлеб „Для духу”, які выпякае Уладыслаў Грыка з Сушчага Барка, лаўрэат мінулагодняга выпуску конкурсу „Наша кулінарная спадчына — смакі рэгіёнаў”, сарганізаванага Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства.

Слухаючы беларускіх песень, выконваных на малой прыстадыённай сцэне, мы спыталіся ў войта Пляскові́ча, ці за прыкладам Орлі ў Нарве можна спадзявацца ўвядзення двухмоўных назваў мясцовасцей. Войт адказаў, як да гэтай пары:

— Як войт гміны паўтараю, што ў мяне сорак восем дзяцей, значыць, сорак восем вёсак і яшчэ шмат малечаў, значыць, хутароў-калёній. Цяпер засяроджваемся на тым, каб дагнаць суседнія гміны ў пытаннях інфраструктуры. Цяпер гэта самае важнае заданне нашага самаўрада.

# зорка
для дзяцей і моладзі




Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Восень-чараўніца

Цэлае лета прабегала Бярозка па лесе ў сваёй зялёнай шаўковай сукенцы. Колеры на сонцы выгаралі, галінкі і сукі чапляліся за рукавы, падол. Усё паабрывалася. Глянула неяк Бярозка ў люстэрка-возера і горка заплакала: «Як жа мне ў гэткім строі на вочы іншым дрэвам паказвацца?»

А тут і гаспадыня-Восень у лес завітала. Паспачувала Бярозцы, суцешыла: «Бачыш, колькі ў мяне тканінаў, фарбаў? Выбірай якую хочаш». Глянула Бярозка і вочы ў яе разбегліся: чырвоны, барвовы, пунсовы, жоўты ўсіх адценняў — якіх толькі колераў у скарбонцы багатай Восені не было! Выбрала яна светла-залацістыя. Дакранулася Восень сваёй чароўнай палачкай да Бярозкі — і ўраз дрэўца апранулася ў залацістыя строі.

Іншыя дрэўцы таксама захацелі новыя ўборы займець. І нікога яна не пакрыўдзіла. Усіх багата апранула. І да Елачкі дакранулася. Але тая, пахмурная і непрыветная, укалола гаспадыню сваімі іголкамі. Адышла Восень, пакінуўшы Елку ў старой пацямнелай зялёнай сукенцы. Так і стаіць яна — заўсёды зялёная — між іншых дрэўцаў у нашым лесе.

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ



Фота Ганны Кандрацюк

Міра ЛУКША

## Каляровая школа

Вераснёвым ранкам
мчымся мы ў школу.
Аўтобус аранжавы
аж гудзе, вясёлы.

Як у вуллі дзеткі
зумкаюць, бы пчолы.
Асеннія кветкі
зацвілі ля школы.

Сонца нам міргае,
просіцца ў школу,
зайчыкі пускае
кампаніі вясёлай.

А ў ранцах стракатых
кніжак, сшыткаў маем!
А „Зорку” і ў хаце
з мамай пачытаем.

# Музыка з кайфам

## Тузін на пачатак




Разам з пачаткам школьнага года варта арганізаваць нанава свае вéды ў кожнай галіне, у тым ліку на ніве музыкі і культуры. У час канікул не заўсёды ёсць час адсочваць падзеі, заглядаць у інтэрнэт ці ў папяровыя выданні. Выдатна гэта разумею, бо калі б не праца, думаю не было б патрэбы сядзець пры камп'ютары ці тэлевізары, бо панадворак і культурныя мерапрыемствы летам шчыльна запаўняюць час.

Разам з пачаткам школьнага года варта сабе прыпомніць крыніцы ведаў наконт музыкі, якія сёння абмяжоўваюцца ў асноўным да інтэрнэту, асабліва калі гаворым пра беларускую культуру. А там — дзеецца, хаця не так шмат як у Амерыцы, хаця з Амерыкай не варта параўноўваць ніводнага культурнага рынку. На пачатак школьнага года прапаную заглянуць на сайт tuzin.fm. Для слаба зарыентаваных падкажу, што нейкі час таму гэты партал знаходзіўся пад адрасам: music.fromby.net, але, так як у цэлым свеце, час патрабуе зменаў і партал пачаў мяняцца. Яго стваральнікі таксама зразумелі, што немагчыма быць толькі крыніцай інфармацыі, а трэба таксама падаваць руку слухачу-наведвальніку. Такім чынам у аўтараў партала пачалі нараджацца новыя думкі, як тая, якая прывводзіла зусім нечаканых артыстаў перакладаць на беларускую мову словы сваіх песень. „Тузін.Перазагрузка” — так называўся гэты праект, рэхам адбіваецца да сёння, але і раней, і ў міжчасе тузінаўцы кантактуюць з публікай. Выдатным прыкладам ёсць цыкл канцэртаў „Жывы Тузін”, які папярэджвала таксама неабыякавая акцыя „Тузін Unplugged”. Справа ў тым, што вялікія, часам меншыя, але цікавыя і актыўныя музыкі выступаюць на клубных сцэнах Менска. Ідэю падтрымлівае грамадская кампанія „Будзьма беларусамі”, якая ў асноўным дапамагае прамаваць чарговыя канцэрты дзякуючы вельмі шырокаму кругу ўспрымальнікаў, бо сапраўды ў Беларусі праца пільна над стварэннем грамадскай сеткі, а стварэнне такіх сетак у нашыя часы — выклік ды вялікая місія.

Першы „Жывы Тузін” пройдзе ў новым сезоне 20 верасня, а можна будзе ў яго час пачуць між іншымі новы альбом HandmadE, гурт, якога лідар суствараў раней гурт „Jab Club” — гэта іфармацыя для тых, якія праспалі апошні музычны сезон.

i_basovka@o2.pl

# Вершы Віктара Шведа

## Наталлі

Дарагая Доня,
Любая заўжды!
Скончыла ты сёння
Дваццаць два гады.

Цяпер ты ў палове
Студыяў сваіх.
Хай Бог дасць здароўе,
Поспехаў самых!

Табе ж у Лісабон
Ехаць задалі.
Хай будзе шчасным ён
Месцам на зямлі!

Хай цябе ўзбагаціць
Усебакова ўсім,
Да далейшай працы
У жыцці тваім.

Дык вяртайся, Ната,
З Лісабона зноў
Да роднае хаты,
Да сваіх бацькоў!



Фота Ганны Кандрацюк

Наталька Швед з бацькамі

# Вельмі добра што вяртаемся да каранёў








— У Міхалове заўсёды жылі беларусы, многа людзей памятае свае карані, памятае пра сваю спадчыну, — заяўляе бурмістр горада Марк Назарка. І дадае: — Можа мы і не ўмелі яшчэ так адважна гаварыць пра свае праблемы і патрэбы, як іншыя. Сёння гэта магчыма.

Разам з адкрыццём новага навучальнага года 2012/13, пасля 37 гадоў перапынку, у Міхалоўскай гміне адрадзіліся ўрокі беларускай мовы. На заняткі запісалася 121 асоба (89 асоб з ПШ і 42 з гімназіі) — гэта прыблізна трэцяя частка ўсіх навучэнцаў. Гэты факт быў агучаны як вялікі поспех. У час урачыстай лінейкі Марк Назарка яшчэ падбіў эмоцыі і спадзяванні на рысцыь ад беларускай мовы. Ён паінфармаваў, што праз тры дні Міхалова наведае сам Браніслаў Камароўскі. Прэзідэнт РП будзе размаўляць пра шматкультурнасць як шанц на развіццё іхняй гміны. У адказ грымнулі бравы ад бацькоў, настаўнікаў, вучняў, якія тлумна завіталі на школьнае свята...

— Ідэя адраджэння мовы выйшла ад бацькоў, — кажа Ян Лукша, дырэктар Комплексу школ імя Уладзілава Сыракомлі і Лешка Носа. — У мінулым годзе, калі мы адкрывалі крыты басейн, прыехалі да нас дзеці з Ваўкавыска. Яны пабывалі ў школе, начавалі. Дзеці не заўсёды ўмелі дагаварыцца адны з аднымі з-за моўнага бар'еру. Некалькі дзён пазней да мяне прыйшлі бацькі з прапановай, каб арганізаваць навучанне. Я сказаў ім, што тут патрэбная адпаведная колькасць дзяцей. Не буду арганізаваць урокаў для дваццаці вучняў! Тэма вярнулася ў красавіку. Мы раздалі дэкларацыі, скантакталіся са школамі ў Гарадку і Залуках. І вось, зацікаўленне перайшло ўсякія спадзяванні — ужо ў красавіку запісалася восемдзесят дзяцей. Я лічу, што беларуская мова — гэта вялікі скарб і козыр. Нам будзе лягчэй дагаварыцца з суседзямі з Беларусі. Для нашых дзяцей гэта дадатковы плюс. Калі хто закончыць школу і напіша ў CV што ведае яшчэ адну мову, то пабольшыцца яго шанц на поспех.

— Добра што так сталася, — адзначае айцец Ян Ярашук, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Міхалове. — Гэта пазітыўная і патрэбная справа. Мы жывем пры мяжы з Беларуссю і вельмі патрабуем кантактаў з імі, мова паспрыяе гэтаму. Для царквы таксама будзе карысць. Нашая моладзь яшчэ разумее гаворку, трэба гэта дацаніць, загаспадарыць. Калі яны пачуюць літаратурную мову ў школе, іначай пачнуць пра яе думаць, іх простая мова набудзе прэстыж...

У Міхалоўскай школе большасць навучэнцаў каталіцкага веравызнання.

— Няма ў нас праблем з рэзкімі праявамі нетalерантнасці, — адзначае бацюшка, — і гэта ў вялікай ступені заслуга гаворкі. Мясцовыя людзі, асабліва старэйшыя, на ёй кантактуюць. Я сам шаную і сам стараюся гаварыць на нашай гаворцы. На парафіі ў Міхалове я ўжо 29 гадоў, то і навучыўся гаварыць так як тутэйшыя людзі.

— Ах, «Зорка»! Гэта ж мая першая газета, — вітае мяне настаўніца Анеля Монах. — У дзяцінстве ўсё з мамай мы яе чыталі, бо я выхоўвалася ў Семяноўцы.

Спадарыня Монах — адна з тых бацькоў, якія заявілі патрэбу навучання беларускай мовы.

— Прымеркі былі даўно, але нічога не рабілася, усё адкладвалі на заўтра. Напэўна, дапамаглі нам госці з Беларусі. Нашы дзеці пазнаёміліся і самі захацелі ведаць беларускую мову. Гэта быў такі выбух. Адзін-другі сказаў, і раптам усе захацелі. Я бачыла гэта па сваіх дзецях. Мой Куба так захапіўся, што ўсё адразу хацеў ведаць — і мову, і культуру, і гісторыю... — Анеля Монах упэўнена, што разам з уводзеннем беларускай мовы ў школу пашырыцца ў Міхалове беларуская культура.

— У нас столькі прыгожых песень, строі, арыгінальная гастраномія. Час даценіць гэта, перадаць маладому пакаленню.

Мая субяседніца здзіўляецца, як памяняўся наш падляшска-беларускі свет. Калі дваццаць пяць гадоў таму яна працавала ў школе ў Ялоўцы, бывала, што дзеці не ведалі польскай мовы.

— Тады трэба было моцна вучыць па-польску, бо ўсе размаўлялі ў хаце па-беларуску. А цяпер — вельмі добра, што вяртаемся да сваіх каранёў.

Настаўніца беларускай мовы Альжбета Раманчук не хавала ўзрушанасці ад такога вялікага энтузіязму да беларускай мовы: — Пачынаем заўтра. У кожным класе будуць тры ўрокі, значыць, нармальнае навучанне. Хачу наладзіць супрацоўніцтва з бацькамі, з медыямі, можа наладзім тэатр. Ужо ў пачатку кастрычніка будзем адзначаць па-беларуску Дзень еўрапейскіх моваў...

Пытаю пра дыдактычную базу.

— Ёсць ужо крыху кніжак. У мінулую нядзелю наведаў нас Эдуард Швайко з Культурнага цэнтра Беларусі, ён прывёз падручнікі. Дапамогу абяцала таксама гімназія ў Гарадку. Будзем рабіць усё, каб нам выйшла, — абяцае Ян Лукша. І дадае: — Маёй марай будзе запрасіць вас праз год, калі ўжо будуць канкрэтныя дасягненні. А пакуль — няма чым хваліцца...

Трымаем за слова!

Тэкст і фота
Ганны КАНДРАЦЮК

## Польска-беларуская крыжаванка № 38

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 33:**

**Там, пуп, мара, на, каралік, апера, сноп, анагр, Алік. Два,мама, мара, Мі, рапс, палена, ікона, капа, падагра.**








**АНДРЭЙ САЛЬНІКАЎ** нар. у 1960 г. у Беластоку. Кончыў Белліцэй у Бельску-Падляшскім. Выпускнік факультэта філасофіі Універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне. У 1986-1995 гг. працаваў выкладчыкам. Сузаснавальнік і першы галоўны рэдактар літаратурна-грамадскага часопіса „Fraza”. Публікаваў у жэшаўскіх перыядычных выданнях „Nowiny”, „Fraza”, а апошні час у штомесячніку „Twórczość”. У 2010 г. выдаў зборнік на польскай мове „Ptakodrzew czyli Dojrzewanie”. Ад 1995 г. жыве ў Бельску-Падляшскім. Вершы „Тоеснасць”, „Пакора” і „Эзопава думка” з'яўляюцца яго дэбютам на беларускай мове.

### Тоеснасць

*Сярод шаптання*
*цішыні вецер*
*заўтрашнім днём*
*заганяе думкі*
*пра сябе.*

*Ой, што тое*
*за думкі*
*– ведаю толькі*
*я і вецер.*

*Уздымайцеся, думкі,*
*да самога Неба,*
*дзе ваша айчына.*

### Пакора

*Ці верыў*
*Ной у чалавечую*
*дарогу вядучую*
*да самога дабра,*
*калі Бог загадаў*
*перанесціся на каўчэг?*
*(Ці толькі*
*выконваў загад)*

*Цяпер зноў*
*згоду шукаць*
*паміж людзьмі –*
*са свечкаю ў руках.*

*Але і за свечку*
*дзякаваць.*

### Эзопава думка

*У клетцы*
*сядзелі:*
*шпак,*
*чыжык,*
*голуб.*

*Ды прыйшла*
*асаблівая хвіліна*
*.....*
*гаспадар даў*
*клетку для*
*малодшага сына,*
*а з яго прычыны*
*птушкі ў неба*
*паляцелі.*

*Вы скажаце мараль,*
*што светам круцяць*
*маладыя, а я вам*
*скажу, што няўважныя*
*старыя.*



За трыялогавым сталом у Лапічах

# ПАМІЖ ВЯДОМЫМ І НЕВЯДОМЫМ

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

Уадпаведнасці з традыцыяй у агратурыстычнае гаспадарства сям'і Маршалкаў, што ў падкрынскіх Лапічах, завіталі аматары беларускай літаратуры і мастацтва. Чарговы раз, па ініцыятыве фонду Віла Сакратэс, удзельнікі Трыялогаў сабраліся ў першы ўік-энд верасня, каб заадно ўрачыста адзначыць юбілей народзінаў беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча. Арганізатары ўвялі некалькі змен у формулу сёлетняй сустрэчы. Упершыню за трыялогавым сталом не стала навукоўцаў і літаратараў, якія гадамі стваралі атмасферу і характар гэтага мерапрыемства. Іх месца занялі, у асноўным, маладыя дэбютанты на чале з вядомай са старонак „Часопіса” пісьменніцай Тамарай Болдак-Яноўскай і яе мужам Антонам. Дзякуючы кантактам Сакрата Яновіча з факультэтам польскай філалогіі ўніверсітэта ў Будапешце, прыехала студэнтка чацвёртага курса згаданага факультэта Вікторыя Вас. Паху сусветнасці мерапрыемству дадаў грамадзянін Нямеччыны Андрэ Бём — штодзень навуковы супрацоўнік Гродзенскага ўніверсітэта. Беларусь у гэты раз прадстаўляў выдатны мінскі паэт Алесь Разанаў.

„Як далёка згэтуль і як блізка, значыць дзе” — гэта загаловак аднаго з фільмаў Тадэвуша Канвіцкага і літаратурнай прэзентацыі Тамары Болдак-Яноўскай, з якой пачаўся галоўны сімпозіум другога дня Трыялогу.

— Польска-беларускае памежжа, яшчэ ўчора палаючы агонь культуры, як далёка згэтуль і як блізка да нас, як далёка згэтуль і як блізка да нашага дзяцінства, — прагучаў сумны голас аўтаркі. — Мона- ў культуры гэта сапраўдны жах, ялавасць, папар за папарам у месца колераў жыдоўства і беларускасці. Неафіцтва робіць нас шэрымі адкідамі грамадства. Вельмі лёгка стаць шавіністам самога сябе, прысудзіць самога сябе і ненавідзець меншасць, якая яшчэ ўчора была тваёй.

— У чым праяўляецца беларускі характар? Чаму мы так хутка зніклі, хаваючы адзін з багацейшых фальклораў свету? Чаму ў Польшчы ў мешаных сем'ях не падтрымліваецца мова меншасці? Столькі людзей ведала б беларускую, нямецкую ці ўкраінскую мовы з самага дзяцінства... Наша няўхільная страта. Гэтая сітуацыя ўзмацняе польскую нацыянальную прыкмету, спусташаючую культуру мегаламаніяй. Наш час здамінавалі рэклама і тавар, хаця мы ім не з'яўляемся. Гэта безумоўна вядзе ў агонію. Наш лебядзіны спеў не стане таварам. Яшчэ маем свае беларускія часопісы, мерапрыемствы, яшчэ не ўсё страчана, — з нотай надзеі дадала яна.

— Нідзе не бывае лёгка, — заўважыў Алесь Разанаў, — гэта датычыць айчынных, польскіх і, мабыць, усіх пісьменнікаў. Творца якраз і прадстаўляе сітуацыю стыку, сітуацыю памежжа паміж вядомым і невядомым, паміж набытым і ненабытым і, каб набыць урэшце тое вышэйшае, даводзіцца ахвяравацца.



Сакрат Яновіч

Чарговае выступленне, падрыхтаванае прадстаўніком маладога пакалення, Андрэ Бёмам, датычыла беларускай культуры ў Нямеччыне, яе ўспрымання і перспектыў. Паводле яго слоў, беларускую літаратуру ў Нямеччыне папулярызуюць перш за ўсё інтэрнэт-сайты, змяшчаючыя бібліяграфію беларускіх тэкстаў у нямецкім перакладзе. Яны прабуюць знаёміць тамтэйшага чытача з беларускімі пісьменнікамі, чаго вельмі цяжка дасягнуць на камерцыйна арыентаваным кніжным рынку. У савецкі час на нямецкую мову перакладалі перш за ўсё творы выбраных класікаў: Быкава, Караткевіча, Брыля. Сёння расце колькасць маладых аўтараў, якія пачалі пісаць пасля развалу Савецкага Саюза. Менавіта імі пачынаюць цікавіцца нямецкія выдавецтвы. Апрача таго з'явіліся ў Нямеччыне падручнікі па беларускай мове і граматыцы напісаныя, між іншым, самай лепшай выкладчыцай беларускай мовы як замежнай Тацянай Рамзай. Беларуская літаратура ў Нямеччыне найперш цікавая для тых, хто мае нейкае дачыненне да Беларусі ці ўсходняй Еўропы. Вельмі цяжка дабрацца з ёю да масавага чытача. На жаль, найчасцей беларуская літаратура ўспрымаецца немцамі на фоне палітычных падзей у гэтай дзяржаве.

Са сваімі кніжнымі публікацыямі паявіўся на лапіцкай сустрэчы малады паклоннік паэзіі Адам Сяменчык, ураджэнец Гарадка, які ад некалькіх гадоў жыве ў Лондане.

— Я пішу пра паэтаў, — рэкамендуе сябе Адам Сяменчык. — Штодзень вяду, між іншым, культурную старонку на сайце „The Polish Observer”, супрацоўнічаю з некалькімі англійскімі радыёстанцыямі. Цяпер фіналізую сваю чарговую кніжку — анталогію эміграцыйнай паэзіі. Гэта эсэ пра пяцьдзесят паэтаў з розных краін свету і іх вершы, у тым ліку Міры Лукшы. Ужо цяпер магу сказаць што гэтая кніжка, прэм'ера якой адбудзецца на бялградскім фестывалі паэзіі, будзе перакладзена, між іншым, на балгарскую і ўкраінскую мовы.

У рамках рэгенерацыйнага перапынку ўдзельнікам Трыялогу была сарганізавана кароткая экскурсія па ваколіцы, пасля якой пачалася сустрэча з пісьменнікам Ігнатам Карповічам, родам з падгарадоцкай Случанкі. „Няма кветкі без кораня” — такі быў эпіграф дыскусіі над формай сучаснай польскай літаратуры ў параўнанні з беларускай літаратуры Беласточчыны. Гэтыя словы арганізатары запазычылі з эсэ Сакрата Яновіча, змешчанага ў адным з каталогаў выставы мастака Лявона Тарасэвіча, аднаго з заснавальнікаў Фонду Віла Сакратэс.

Фінальным пунктам нядзельнай праграмы было багатае застолле і танцы ў гонар юбіляра Сакрата Яновіча, праведзенае ў яго адсутнасці.

Канферэнцыйны стол сёлетняга Трыялогу ствараў уражанне даволі пуставатага. Цяжка таксама было знайсці ахвотных да танцаў пад гукі гарадоцкага „Хутара”. Мабыць, з-за невялікай колькасці ўдзельнікаў і адчування не да канца выкананай місіі арганізатары не рашыліся нават на традыцыйны памятны фотаздымак. Вельмі трывожнай здаецца думка, што вялікая справа Сакрата Яновіча завісла на мяжы паміж вядомым і невядомым.

# Падарожжа туды-сюды

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

У гарадскім аўтобусе з майго прыпынку села маладая дзяўчына студэнцкага выгляду. Села пярэднімі дзвярмі, купіла білет у вадзіцеля, падышла да кампосцера і, штампуючы білет, упусціла некалькі манет на падлогу. Крыху падняла, а адна асталася па-за ейнай увагай. Неўзабаве села ў той жа аўтобус маладая жанчына, гадоў больш-менш трыццаці. Заўважыла на падлозе манету і ўзяла яе сабе. Пабачыла гэта мажная пажылая жанчына, якая сядзела паблізу сярэдніх дзвярэй і зажадала тую манету сабе, а калі новая пасажырка не адрэагавала, загадала аддаць яе той дзяўчыне, што раней яе ўпусціла. Але новая пасажырка адвярнулася і не рэагавала. Пажылая жанчына на ўвесь аўтобус стала яе саромець — нічога гэта не давала. Дзяўчына, што была манету згубіла, аглянулася, але маўчала, не прыдаючы здарэнню ніякай увагі; магчыма, што яна была несвядомая сваёй ролі ў здарэнні. Калі новая ўласніца манеты пакідала аўтобус, пажылая жанчына крыкнула за ёю:



— Złodziejka! Wstydu nie ma!

Ніхто з пасажыраў не падключыўся да галоснага маналога старэйшай жанчыны. Можна ж падумаць, што тая манета не была згубіўшай яе дзяўчыне надта істотнай, калі яна ёю не турбавалася, дык чаму ж мела яна быць істотнай іншым, зусім ёй чужым пасажырам. Пажылой жанчыне, якая, магчыма, у сваёй маладосці была навучана сумленна берагчы нават упаўшую на падлогу крышынку хлеба, упаўшая манета прадстаўляла прынцыповую вартасць, якую абавязкова трэба сумленна вярнуць законнай уласніцы. А маладой жанчыне, якая падняла з падлогі бяспанскую на той момант манету, магло здацца дзіўным, што мае яна яе некаму, да таго ж нецікаваму згубай, аддаць. Ну і яна вырасла ў іншым часе, сярод лозунгаў браць справы ў свае рукі; і яна ўхапіла ў свае рукі тую залатоўку ці паўзалатоўку згодна з дарвінаўскім законам змагання за быт.

З гарадскога аўтобуса перасеўся я на аўтобус міжгародні, які за горадам Беластокам пакалясіў па шашы ў напрамку Баброўнік. Тая шаша, хаця яшчэ новая, але на яе палатне ўжо шмат лат і выглядае на тое, што неўзабаве трэба будзе пакласці на яе цалкам новы насціл. Такі новы насціл ляжыць на асфальтоўцы ад Вілаў у напрамку Міхалова. Але не на ўсёй трасе — за Жэдняй вітае пасажыраў стары асфальт, на якім лат намнога менш чым на многа маладзейшым „баброўніцкім”. Людзі часам успамінаюць, што пры г.зв. камуне вырабы былі мо непрывабныя для вока, але салідныя. Такі менавіта і асфальт ад Жэдні да Міхалова. Пamoршчаны ён страшэнна, бо ж і насцілалі яго іншай тэхнікай чым цяпер. І той стары нелатаны асфальт пачаў салідна трасці адносна новым аўтобусам, прынагодна бойка масажуючы пасажырам іх мяккія і суседнія да мяккіх месцы. Вось часам прагны здароўя прыхварэлы народ купляе масажысцкія ложкі ці крэслы за сотні ці тысячы залатовак, а вось масажную працэдуру можна прайсці за адносна невысокую плату, праехаўшыся аўтобусам між Жэдняй і Міхаловам. У адносна новым аўтобусе такая гаючая працэдура адбываецца адносна ціха, але ж калі б па такім старым асфальце пусціць аўтобус старэйшага дызайну, дык тую працэдуру суправаджала б таксама цалкам мадэрная цвёрдаметалічная музыка.

У Міхалове аўтобус забірае тры жанчыны ў Плянты. А вязуць яны з горада ў вёску тое, што ранейшае пакаленне вазіла з вёскі ў горад — гародніну і садавіну. Сумкі з пакупкамі ў іх вялікія, але не з-за сумак цяжка ім ускарабкацца ў аўтобус. На высокія прыступкі міжгародняга аўтобуса найцяжэй ім унесці свае буйныя клубы. Цяперашнія гарадскія аўтобусы запраектаваны з думкай пра носьбітаў такіх менавіта анатамічных здабыткаў і прыступкі ў іх нізенькія, затое пэкаэсаўскія машыны праектаваліся, мабыць, нейкімі балельшчыкамі, з думкамі пра маладых спартсменак-рэкардсменак. Ды ці хто думае цяпер пра вясковых жанчын? Якія ездзяць за пакупкамі ў горад, бо ўжо самі не абрабляюць агародаў, нават на лаўкі перад хатамі не выходзяць, толькі вылупліваюць вочы ў тэлевізары. Так як гарадскія. Вопратка іх і візаж можа яшчэ не надта гарадскія, але анатомія ўжо. Міжгародні аўтобус здаецца быць канструкцыяй моцна ў нас устарэлай...

З аўтобуса злажу ў Лешуках. На вуліцы ціха, не відаць на ёй жывой душы. Пакуль я ішоў гэтай вуліцай, праехала па ёй толькі адна машына. А калі выйшаў за вёску, выкацілася з яе яшчэ адна, з прычэпам, на якім стаяла старая веялка. Веялка з вялікай ручкай, якую трэба было ўручную круціць. Гэтая пустая вуліца выклікала ў мяне найдаўнейшы мой успамін з Лешукоў. Вуліца тады здавалася мне вельмі шырокай, а на ёй было мноства народу і дабытку. І ўсё тое падавала нейкі свой голас, а ўсе галасы зліваліся ў нейкую, як бы цяпер назваць, вясковую сімфонію. Хто ведае, ці такое багатае рознагалоссе не ўплывала на мастацкія здольнасці жыхароў Лешукоў, бо тамашнія дзяўчыны славіліся не толькі красою, былі яны і выдатнымі спявачкамі. А мужчынскія таленты праяўляліся ў своеасаблівым тэатральным мастацтве. Пастаноўкі адбываліся найчасцей перад крамай, а іх жанр быў вынікам хвілінных прыліваў ці адліваў настрою галоўных герояў, якія на свае ролі расходавалі ўсе свае сілы, адпачываючы пасля гэтай працы так, як замежны народ адпачывае на найбольш модных пляжах. Толькі не на залацістым пясочку, але на зялёнай траўцы за крамай ляжалі яны пакорненька, як снапы пасля жніва.

Гэтак было даўней, а цяпер зранку ляшуцкая вуліца не нагадвала свайго слаўнага мінулага. А мая дарога за вёскай не нагадвала той жа самай дарогі з часу, калі я бегаў па ёй у каротых нагавічках. Цяпер на ёй даволі роўны жвіровы насціл, а калісь была размоклая гліна, у якой нават чэрці маглі па-



губіць свае капыты. Але балота не звялося, так, як, мабыць, не звяліся і чэрці; яны яго перанеслі ў такое месца, у якім раней і не думалася балоту быць магчымым.

Вярнуўся я ў Лешукі пад поўдзень, пад аўтобус у Беласток. Вёска ўжо набірала голас; даходзіў ён на аўтобусны прыпынак з боку, вядома, крамы. Мова, якую неслі мужчынскія галасы, здавалася быць самай простай, самай элементарнай. Аж прагна стала, каб такой простай былі сучасныя замежныя мовы, каб іх лёгка было засвоіць без зазубрання марфалогій, сінтаксісаў і, самае галоўнае — лексікі. Бо мова, што даходзіла з ляшуцкай крамы, складалася толькі з трох марфалагічных частак, а кожная з тых частак толькі з аднаго слова. З літары Ё пачыналася першая частка гэтай мовы — агульная. З літары П — дзеяслоў-паланізм. З літары Х назоўнік. Эх, каб такая была, для прыкладу, англійская...

Пад краму я не заходзіў, бо калі нейкі час таму быў туды зайшоў, а была гэта пара перадвыбарчай самаўрадавай гарачкі, зараз з'явіліся тры асобы, якія сталі мяне агітаваць загаласаваць на аднаго з кандыдатаў на пасаду войта. Я аднекваўся, гаварыў, што ў мяне намечаны Трускаляскі, а яны — каб я ўзяў пісульку і прыехаў галасаваць не на свайго, а на іхняга. А навошта мне такое, калі цяперашні Павільч мае шанс запісацца ў Гінеса за вытрымку на пасадзе — не буду ж яму ў гэтым перашкаджаць.

Пад краму я не пайшоў, але атрымалася так як у вядомай пагаворцы: *Если гора не хочет идти к Магомету, Магомет пойдёт к горе*. Перада мною з'явіўся адзін з гасцей крамы. Ягоны твар выпраменьваў такую радасць, як веснавое сонейка. Паведаміў ён мне, што цікуе за нейкім *кліентам*. Але неўзабаве пабачыў ён выйшаўшага з хаты Тадзіка і падаўся да яго. Абмяняўшыся з Тадзікам нейкімі рытуальнымі інфармацыямі, вярнуўся ён да мяне. На ягоным твары з'явілася нясмелая заклапочанасць. Спытаў ён мяне вельмі нясмела ці можа ў мяне пра нешта спытаць; я адказаў станоўча.

— Два злоты?

— Не маю, — стандартна адказаў я.

Памяўся ён крыху ў заклапочанасці і неахвотна падаўся зноў у бок крамы. Зараз прыйшоў на прыпынак Тадзік.

— Адкуль гэты хлапец? — пацікавіўся я.

— А гэта ж Жоры.

— Ну і праўда, бо ж і падобны.

— А вось там і сам Жора падбег да самахода, — паказаў Тадзік на канец вуліцы. І дадаў: — Пытаў ён у мяне, хто ты такі, што па-свойму гаворыш.

Зараз з таго канца, дзе быў Жора, паказаўся і беластоцкі аўтобус, той самы, на якім я прыехаў у Лешукі, нават частка пасажыраў не змянілася.

На прыпынку ў Плянтах, дзе раней злезлі тры мажныя жанчыны, цяпер чакаў хударляваты мужчына. Пабачыўшы над'язджаючы аўтобус, ён прагна стаў смактаць папяроса, як галоднае дзіця цыцку. Так усмактаўся, што не меў нават часу згасіць яго, выкінуўшы распалены ў траву...

На абмежках Міхалова, па шашы ў напрамку Жэдні стаіць інфармацыйны знак, што будзе 16,5 кіламетра ўхабістай дарогі. А зараз за ім, што ў Жэдню ўсяго 12 кіламетраў. А гэтая ж ухабістая дарога канчаецца два кіламетры перад Жэдняй, значыць яе толькі дзесяць кіламетраў — амаль на палову менш «масажу» чым на паказальніку. Вось якое ашуканства: чалавек цешыцца на думку пакарыстацца поўнай гаючай працэдурай, а ў сапраўднасці атрымае толькі палову яе.

На канец Беласток. Наш галоўны тутэйшы горад здаецца быць сёння ў самім эпіцэнтры інфармацыйнай энтрапіі. Вадзіцелі не заўсёды ведаюць якія вуліцы праязныя, а якія не. Ну а пасажыры міжгародніх аўтобусаў наогул не ведаюць, дзе іхнія прыпынкі. Калісь, да Трускаляскага, было ўсё вядома — аўтобусы спыняліся каля «зурту», а цяпер — лезуць на думку словы згаданай раней найбольш лаканічнай мовы... Але ці Трускаляскі тут вінаваты? Ці я, што заўпарціўся на яго галасаваць?..

# „ЦАГЛІНКІ” любяць і шануюць бабуліны песні

Паўліна Драўноўская

Магдалена Сухадола

Калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова ў сваім рэпертуары аддае перавагу мясцоваму фальклору. Удзельнікі калектыву родам з Гайнаўшчыны, перш за ўсё са Старога Ляўкова, і таму стараюцца развучыць тыя песні, якія бытуюць у іх родных мясцовасцях. У гэтых цудоўных песнях адчуваецца душа беларускага народа. Музычны кіраўнік калектыву Мікалай Мяжэнны лічыць, што ў мелодыях і словах песень увасоблены этнічны гукаідэал, бо музычна-спеўная мова народа — яго інтанацыйны эталон. У рэпертуары „Цаглінак” дамінуе аўтэнтычны фальклор. Людзі спяваюць на адкрытых пляцоўках, на малых і вялікіх канцэртных сцэнах, атрымліваюць асалоду ўсе разам — бо не падзяляюцца на выканаўцаў і слухачоў. Дакладней, яны існуюць у адной эмацыянальнай прасторы. Калі выступае калектыў „Цаглінкі”, яны адчуваюць публіку, а публіка адчувае іх. Мікалай Мяжэнны доўгія гады навучае іх спеву. Яны — таленавітыя народныя самародкі, якім прырода дала незвычайны слых і голас.

Выступленні „Цаглінак” ствараюць слухачам магчымасць пазнаёміцца з жывымі носьбітамі нацыянальнага фальклору, паслухаць іх песень, адпачыць душой, адчуць гарманічнасць спеву.

— Мы маем сваіх шматлікіх паклоннікаў у Польшчы і па-за яе межамі, — кажа музычны кіраўнік „Цаглінак” Мікалай Мяжэнны. — Нам няма калі сумаваць. Мы ўсцешаныя тым, што сваёй творчасцю радуем людзей. Мы самі здзіўлены, што нам пішуць, запрашаюць выступіць з канцэртам. Па крайняй меры наш рэйтынг не падае. Нам прыемна, калі ў час выступлення публіка, не стрымліваючы сваіх эмоцый, пачынае нам падспеўваць, бісаваць. Такія спатканні, знаёмствы становяцца для нас запамінальнымі.

Слухаючы энергічны аповед Веры Осяк пра гісторыю калектыву „Цаглінкі” і ўзіраючыся ў яе высакародны твар, хацелася мне даведацца колькі гадоў яна спявае з калектывам. З гордасцю прызналася: „Я спяваю ў калектыве ад самага пачатку яго заснавання, больш чым 35 гадоў”.

Музычнага кіраўніка калектыву ведаюць у нашай краіне як пераемніка фальклору нашых продкаў. Мне хацелася даведацца ад каго ён пераняў любоў да роднай песні. А вось што расказаў пра сябе Мікалай Мяжэнны:

— Я нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў невялічкай вёсцы Буды, што на Магілёўшчыне. Мая бабуля Анна Ануфрыеўна па бацькоўскай лініі была спявачкай на ўсю вёску, у многім была таленавітым чалавекам. Яна спявала дома, на вуліцы, на лавачцы супольна з вясковымі суседкамі. Бацька, Яўхім Яфрэмавіч, вельмі любіў жарты, прыказкі, песні. Яго паважалі ў народзе. Бабуля Анна часта дапамагала маёй маці даглядаць нас, дзяцей. Яна расказвала нам розныя казкі, прыказкі, гісторыі з жыцця, спявала песні. Гэта моцна паўплывала на маё ўспрыманне сялянскага жыцця, звычаяў, а перш за ўсё песень. Увесь час цягнула мяне да свайго нацыянальнага, да фальклорных песень. Я вырашыў, што буду спрыяць захаванню беларускіх звычаяў. Не магу толькі растлумачыць, чаму я настолькі прывязаны да сваёй другой малой радзімы, Беласточчыны, бо калі прыязджаю ў Гродна да сваёй роднай хаты — сумую, душа рвецца хутчэй у Старое Ляўкова, да „Цаглінак” на рэпетыцыю, вучыцца мастацтву.

Спытаў я ў Мікалая Мяжэннага ці, кантактуючыся з моладдзю, заклікае яе зберагаць свае традыцыі.

— Я радуюся, што мода на традыцыйную культуру зараз ідзе, — сказаў музычны кіраўнік „Цаглінак”. — Моладзь ужо зусім інакш ставіцца да сваіх песень, мовы. Сёння многія маладыя вывучаюць фальклорную культуру, спадчыну.

І сапраўды, калектыў „Цаглінкі” нядаўна папоўніўся маладымі галасамі. Я пацікавіўся, што маладым дае народная песня. Новыя ўдзельніцы калектыву Паўліна Драўноўская і Магдалена Сухадола сказалі мне наступнае:

— Народныя песні заваражылі нас здаўна. Бабуліны песні захапляюць народнай меладычнасцю, прымушаюць плакаць і смяяцца. Мы рады, што нас прынялі ў „Цаглінкі”. Акрамя гэтага мы ў калектыве адчуваем сябе патрэбнымі. Старэйшыя ставяцца да нас добразычліва. Мы хочам і будзем спяваць.

Не так даўно ў „Цаглінках” пачаў спяваць Міхась Харкевіч. На маё пытанне адказаў ён рыфмаванымі радкамі:

*Без Вас, „Цаглінкі” не маю смаку ў жыцці.*
*Яно здаецца аднастайным, шэрым.*
*І прэч я не магу ад Вас пайсці.*
*Вы даяце мне сілы ў сябе верыць.*

Самадзейны калектыў „Цаглінкі” сваім прафесійным спевам і разнастайным рэпертуарам пацвердзіў, што традыцыйная культура з'яўляецца важнай у іх жыцці і ва ўсіх умацавала ўпэўненасць, што народная песня будзе папулярнай і надалей.

Тэкст і фота Віктара БУРЫ

WESTKI.info

# http://westki.info

Адметнасцю інфармацыйнага сегменту беларускага Сеціва ёсць яго дзяленне па не зусім звыклым геаграфічным прынцыпе. Насуперак устаноўленым адміністрацыйным межам у Байнэце некаторыя рэгіянальныя навінныя сайты распавядаюць аб падзеях у абраных іх стваральнікамі мясцінах. Пры гэтым не зважаецца на існую нестыкоўку інтарэсаў блізкіх геаграфічна, але далёкіх у паўсядзённым жыцці гарадоў і вёсак.

Адным з прыкладаў такога дзіўнага „інтэрнэт-спалучэння” ёсць сайт „Весткі.info”, што месціцца ў Сеціве па адрасе **http://westki.info**. Абшарам сваіх інтарэсаў яго стваральнікі абралі Паўночную Беларусь і Вільню. Да Паўночнай Беларусі яны аднеслі некаторыя раёны трох беларускіх абласцей — Віцебскай, Гродзенскай і Мінскай. У гэтым абшары аказаліся злучанымі як заходнебеларускі Астравец, так і з большага належачы да ўсходу Беларусі Полацк. Падаецца, што нават пры сённяшнім не зусім пасуючым да гісторыка-культурных і эканамічных рэалій адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні Беларусі такое вызначэнне як „Паўночная Беларусь” ёсць вельмі штучным. Таксама як і аб'яднанне ў адзін абшар інтэрэсаў разам з беларускімі рэгіёнамі ўжо зусім далёкай у ментальным, палітычным і эканамічным плане літоўскай Вільні.

Нягледзячы на такія супярэчлівасці, „Весткі.info” ўсё ж такі маюць вельмі важную карысную дэталь. Сайт выконвае галоўную функцыю рэгіянальнага партала — распавядаць аб падзеях, што адбываюцца не ў розных кутках свету, а ў сваіх гарадах і вёсках. Астравец, Ашмяны, Браслаў, Верхнядзвінск, Вілейка, Глыбокае, Докшыцы, Мёры, Мядзел, Паставы, Смаргонь, Ушачы, Шаркоўшчына, Полацк — інфармацыя з гэтых мясцін будзе карысная тым, каго цікавіць не афіцыйны погляд на падзеі, а тое, чым насамрэч жывуць там людзі.

„Наша мэта — забяспечыць эфектыўную і своечасовую сістэму распаўсюду высокаякаснай інфармацыі, у прыватнасці, аб грамадскіх і палітычных падзеях паўночна-заходняй Беларусі”, — так акрэсліваюць сваю мэту стваральнікі сайта на старонцы About Us, дзе ўсё чамусьці падаецца па-англійску.

Уладальнікі партала крэатыўна падыйшлі да ардынарнай на першы погляд назвы навіннага сайта. „Назва сайта ёсць спалучэннем беларускага слова „весткі”, што значыць „навіны” і англійскага слова west, каб падкрэсліць, што на сайце ходзіць аб заходнім паазер'і Беларусі”, — распавядаецца на на англамоўнай старонцы.

Рубрыкі сайта маюць не толькі геаграфічную прыналежнасць. У версе цэлага выяўленны мы ўбачым выйсці на такія старонкі як „Відэа”, „Землякі”, „Галерэя” і некаторыя іншыя. Праўда, нідзе не знайсці персаніфікацыі аўтараў і стравальнікаў сайта. Нават на старонцы „Нашы кантакты” гэтых кантактаў няма, а ёсць толькі магчымасць даслаць паведамленне. Куды і каму — гэта ўжо невядома.

Сярод іншых рубрык вартай увагі падаецца старонка „Відэа”. Дзякуючы ёй, кожны наведвальнік сайта мае магчымасць убачыць на свае вочы, як жывуць людзі на поўначы Беларусі, якія праблемы іх хвалююць.

Дарэчы сайт прадстаўляе магчымасць даведацца і аб тым, што хвалюе беларусаў Віленскага краю. Праз яго можна выйсці на старонку тамтэйшага Таварыства беларускай культуры, пра што „Ніва” пісала ў №15 за 12 красавіка 2009 года.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Ашмянская якасць

Ашмяншчына — гэта частка колішняй гістарычнай Віленшчыны, знітаванасць гэтага краю з старадаўняй беларускай сталіцай адчуваецца дагэтуль. У савецкі час многія ехалі адсюль на працу ў Вільню, а пасля развалу СССР засталіся там назаўсёды. На Ашмяншчыне жывуць людзі з адрознымі менталітэтам, сваім гонарам і традыцыяй перабольшваць значнасць тых ці іншых лакальных падзеяў. Ашмянцы вельмі добрыя расказчыкі, таму невыпадкова адна незалежная сучасная газета перахрысціла папулярную некалі анекдатычную рубрыку „Армянское радыё” на „Ашмянскае радыё”.

Назву раённага цэнтру Ашмяны мясцовыя людзі да гэтай пары называюць у адзіночным ліку жаночага роду — Ашмяна. Тапонім відавочна балцкага паходжання, разгадаць значэнне якога пакуль не ўдаецца. Мясцовасць пра якую ідзе гаворка знаходзіцца на Ашмянскім узвышшы і ёсць адной з сама высокіх у Беларусі над роўнем мора. Клімат тут крыху халаднейшы, а пладовыя культуры выспяваюць пазней чым у іншых навакольных рэгіёнах.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах Ашмяна згадваецца пад 1341 годам як замак вялікіх князёў ВКЛ, які ў 1384-85 гадах адбіў напад крыжакоў. Статус горада Ашмяне надаў вялікі князь Вітаўт, а магдэбургскае права яна атрымала ў пачатку 16-га стагоддзя. У 1432 годзе пад Ашмяной адбылася вялікая бітва паміж войскам вялікага князя Свідрыгайлы і супольнымі сіламі старадубскага князя Жыгімонта Кейстутавіча і князя Сямёна Гальшанскага — у гэтай жахлівай сечы палягло каля 14 тысяч ваяроў, а ў выніку Свідрыгайла быў змушаны адысці. У пачатку 16-га стагоддзя горад перанесены на іншае месца (Новая Ашмяна), старажаытная частка (Старая Ашмяна) ў 1505 годзе была аддадзена францішканцам. Неўзабаве Ашмяна стала цэнтрам аднаго з буйнейшых паветаў ВКЛ. У 1717 годзе ў павеце жыло каля 85 тысяч жыхароў.

Дзвесце гадоў таму, у вайну 1812 года, горад быў заняты напалеонаўскімі войскамі. А ў красавіку 1831-га тут адбылася значная падзея — выступ паўстанцаў на чале з Юзафам Зянковічам і Парфірам Важынскім. За падтрымку паўстання Ашмяна была разбурана расейскімі войскамі пад камандай палкоўніка Вяршуліна.

Ядро сучаснага горада складае цэнтральны пляц, дзе ў адпаведнасці са старымі айчыннымі традыцыямі суседнічаюць храмы двух асноўных канфесій — праваслаўная царква і каталіцкі касцёл. А праз пару дамоў па цэнтральнай вуліцы, крыху ў глыбіні, стаіць вялікая драўляная сінагога 19-га стагоддзя, архітэктурных аналагаў якой бачыць не даводзілася нідзе. Характэрна, што сярод мясцовага насельніцтва ва ўсе часы тут не было сур'ёзных міжрэлігійных канфліктаў.

Праваслаўная царква пры саветах была амаль разбурана, у такім жа гаротным стане быў і мясцовы касцёл у мурах якога былі вытворчыя і адміністрацыйныя памяшканні віленскага завода радыёпрыладаў. Ваёўны атэізм і русіфікацыя ў гэтым рэгіёне былі асабліва моцнымі. Але час усё і ўсіх рана ці позна размяшчае па сваіх месцах. Сёння ашмянскія храмы якасна адрэстаўраваныя і дзеюць. А нядаўна з пляцу перад выканкамам нібыта прыбралі помнік праваднікy сусветнага пралетарыяту, што яшчэ раней стаяў у абласным цэнтры.

Візітоўкай сённяшняй Ашмяны ёсць найперш мясцовы мясакамбінат, які дзякуючы якасці і смаку сваёй прадукцыі выйшаў хіба на першае месца ў краіне. Нездарма ў дольнай частцы старога герба змешчана выява чырвонага цяляці. Статус горада звязаны зараз з трасай Мінск-Вільня і мытнай „дарогай жыцця”. А вось свайго радыё ў Ашмяне, на жаль, няма. Не той час пакуль...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Беларускі фэст і вэрстоцкая „*бананза*”

28 жніўня вернікі праваслаўнай царквы адзначалі Успенне Прасвятой Багародзіцы. Прыхадскія фэсты арганізаваліся на Гайнаўшчыне ў Чыжах, Кляшчэлях і Вэрстоку. Карыстаючыся нагодай, Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы, гміна і Гмінны асяродак культуры ў Дубічах-Царкоўных арганізавалі ў Вэрстоку беларускі фэст „І тут жывуць людзі”. Жыхарам прыпушчанскай вёсачкі траплялася яшчэ адна нагода для святкавання — пасвячэнне мадэрнізаванай вуліцы і новаўзьедзеных вясковых крыжоў.

Афіцыйная частка імпрэзы пачалася ў 16 гадзін здачай у карыстанне новаасфальтаванай дарогі. Інвестыцыя была рэалізавана з гміннага бюджэту. Значную фінансавую ўспамогу дала Гаспадарка дзяржаўных лясоў, якую прэзентуе Надлясніцтва Бельск-Падляшскі. Гэтая ўстанова рэалізавала таксама кошт двух драўляных крыжоў, якія былі ўстаноўлены на месцы даўніх помнікаў у вёсцы. Варта адзначыць, што крыжы выканалі самі жыхары Вэрстока. Адкрыцця і перарэзання драўлянай стужкі (ручною пілою) ўдастоілі: войт гміны Лявон Малашэўскі і надляснічы Ежы Анджэюк. Цырымонію пасвячэння здзейснілі: настаяцель мясцовага прыхода а. Павел Кучынскі, ксёндз Юзаф Паскробка з рымска-каталіцкай парафіі ў Гайнаўцы і ксёндз Ян Красоўскі з Кляшчэляў. Затым шэсце падалося ў канец вёскі, дзеля пасвячэння крыжоў.

Зараз жа пасля пасвячэння, у 17 гадзін пачаўся фэст. Заявілі аб гэтым дзве сімпатычныя прыгажуні: Паўліна Паўлючук і Марыёля Герман, якія выконвалі ролі вядучых. Затым пазнаёмілі ўдзельнікаў імпрэзы з праграмай, арганізатарамі і спонсарамі. Пасля ўзяў голас войт Лявон Малашэўскі. — Сардэчна вітаю шаноўных гасцей — пачаў выступ на польскай мове кіраўнік самаўрада... — А ты па свояму гавары — грымнуў падхмелены асобень з публікі ў бок войта... Але гэты, не зважаючы на яго словы, прадаўжаў далей: — ... настаяцеля мясцовага прыхода а. Паўла Кучынскага, ксяндза Юзафа Паскробку з Гайнаўкі, кс.Яна Красоўскага з Кляшчэляў, прадстаўнікоў Гаспадаркі дзяржаўных лясоў — надляснічага Ежы Анджэюка і сакратара Веслава Альшэўскага з надлясніцтва Бельск-Падляшскі, каменданта Памежнай стражы ў Дубічах-Царкоўных падпалкоўніка Яна Нічыпорука, павятовага каменданта паліцыі Дар’юша Кулака, дырэктара Следчага арышту ў Гайнаўцы Рамана Пашко, старшыню Рады гміны Ежы Карпюка, сакратара гміны Мікалая Лаўрыновіча, радных і солтысаў гміны. У час далейшага выступу спадар Малашэўскі павіншаваў жыхароў вёскі са святам і здачай у карыстанне новай дарогі, затым пажадаў прыемнага адпачынку пры народнай музыцы і песні. А мастацкая частка была даволі багатая.

Першым на сцэне выступіў Дубіцкі „Струмок” пад кіраўніцтвам Ігара Фіты. Публіку прывітаў беларускай песняй „Белая касыначка”. Пасля гурт выканаў украінску песню „Іграй музыка, грай” і іншыя. Выступ вакальнай групы Дубіцкага асяродка культуры, спорту і адпачынку быў сардэчна ўспрыняты аўдыторыяй. Сведчылі аб тым бурныя апладысменты. Чарговае месца на сцэне заняў калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова. Гэтага гурту не трэба было публіцы рэкамендаваць. Добра вядомы на Беласточчыне. Шыкарныя каляровыя касцюмы, звонкія галасы і народныя напевы заваражылі публіку (за малая сцэна аказалася для шматлікага калектыву). Гэта заслуга мастацкага кіраўніка Мікалая Мяжэннага з Гродна і кіраўніка калектыву Галены Барташук. Варта адзначыць, што „Цаглінкі” ў Вэрстоку давалі семсот пяты канцэрт. Гэта багаты плён на культурнай ніве! Тут я меў нагоду сустрэць калегу па пяру Віктара Буру, які заявіў, што з’яўляецца менеджарам калектыву. Абмяняліся мы навінкамі.



Нечакана пачалася мясцовая „бонанза”. Калі журналісты Беластоцкага тэлебачання фіксавалі канцэрт „Цаглінак” для беларускай перадачы, падпіўшы асобень пачаў дэманстраваць свае бугі-фугі перад тэлекамерай. Заўвагі тэлеаператара не дзейнічалі на назойлівага нахабніка. Не памагла інтэрвенцыя арганізатараў. Праўда, пасля размовы старшыні Рады гміны, аднавяскоўца, асобень на хвілінку знік „з гарызонту”, але ў час выступу беластоцкага гурту „Гай”, які ўзначальвае Мар’юш Харужы, з’явіўся паўторна перад сцэнай з недапітай бутэлькай гарэлкі за поясам. А маладыя музыканты за кароткі час змаглі ўжо заваяваць публіку (гурт арганізаваўся дзевяць месяцаў таму). У гэтым годзе „Гай” стаў лаўрэатам конкурсу „Беларуская песня” ў Беластоку. Рэпертуар калектыву багаты і разнародны. На фэсце канцэрт пачаўся песняй „Ой сівы конь бяжыць”. Пасля панеслася народная мелодыя „Вяне рута”, „Цячэ вада ў ярок”, „Колькі ў небе зор”, „Смэрэко” ды іншыя. І ўсё было б добра, каб не „вэрстоцкая бонанза”. Назойлівы прахадзімец, скінуўшы кашулю і „паўнага” з недапітай бутэлькай у руцэ, блазніўся перад шматлюднай публікай і ганаровымі гасцямі. Калі я паспрабаваў прад’явіць заўвагі кіраўнікам Дубіцкага самаўрада, гэтыя бездапаможна складалі рукі. — Гэта хворы чалавек. Трэба яго лячыць” — гаварылі. Але знайшоўся сярод удзельнікаў святочнага фэсту „доктар”. Пазваніў у гайнаўскую паліцыю. Прыехалі функцыянеры і заняліся прахадзімцам.

Канцэрт працягваўся. Публікі прыбывала. Калі прэзентаваліся музыканты з „Нарвы” і нарваўскага „Арт-Пронару”, публіка падспеўвала разам з выступаючымі на сцэне артыстамі вядомыя гіты. Закружыліся ў танцы пары перад сцэнай. Вядучыя падбадзёрвалі публіку да танца: — Вэрсток гуляе!... — чуўся голас Марыёлі Герман. — Гайнаўка гуляе... — несла вячэрняе рэха водгук публікі. Я пакідаў забаву ў поўным разгары перад дзевятай вечара. Дамоў падвезлі мяне Аліна і Эдзік Зазулінскія з Палічнай, якія ўдзельнічалі ў мерапрыемстве.

Нягледзячы на неакуратныя паводзіны жыхара вёскі, варта прыкмеціць, што беларускі фэст „І тут жывуць людзі” ў Вэрстоку лічу ўдалым мерапрыемствам. На ўвагу заслугоўвае выстаўка фатаграфіі даўнейшай і сучаснай, прэзентаванай на плоце, якая прадстаўляе падзеі з удзелам жыхароў Дубіцкай гміны. Прэзентацыя згаданага вернісажа змагла быць даступнай грамадскай супольнасці, дзякуючы рэалізацыі Клубам любіцеляў гісторыі і традыцыі (існуе пры Гміннай публічнай бібліятэцы) праекта „Дубіцкая гісторыя на плоце пісаная”. Праект дафінансаваны быў са сродкаў праграмы „Дзейнічай лакальна VII — Польска-Амерыканскага фонду свабоды рэалізаванага Акадэміяй філантропіі ў Польшчы, таксама Лакальнай грантавай арганізацыі ў Гайнаўцы. Па маёй думцы, выстаўка мела б багацейшую вымову, калі б пад здымкамі знайшліся подпісы, каго і які перыяд прадстаўляюць здымкі. Але, як сказаў мне сакратар гміннай управы Мікалай Лаўрыновіч, гэтым у будучыні займецца ГАК з бібліятэкай. І апошняя справа. Арганізатарамі фэсту „І тут жывуць людзі” ў Вэрстоку былі Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы, узначальваны дырэктарам Тамашам Ціханюком, Гмінны асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Дубічах пад кіраўніцтвам Іаланты Соха і Гмінная ўправа. Фінансавую ўспамогу дало Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, гміна і Надлясніцтва Бельск-Падляшскі. Дзякуй ім за гэта!

# 16.09 — 22.09

**(22.03. — 20.04.)** Да 18.09. будзеш самастойны і ахвотна спрабуеш чагосьці новага, зробіш уражанне. Не прымай падарункаў ад малазнаёмых, за іхняй вонкавай сімпатыяй можа скрывацца падвох. Пазбягай месц, дзе збіраецца шмат людзей. Не афішуйся з уласнымі планамі. У чацвер удасца ўсё за што будзеш брацца творча без кампаніі.

**(21.04. — 21.05.)** У другой палове верасня сітуацыя на працы паправіцца, аблегчыш сабе работу і пакажашся з як найлепшага боку. Затое пільнуйся са здароўем, не перанатужвайся. 19-23.09. з поспехам можаш развіваць свае таленты і рэалізаваць амбіцыі. Прыйдуць таксама большыя грошы.

**(22.05. — 22.06.)** Не будзеш мець цяпер галавы да дэталяў звязаных са сваёй кар’ерай (пакінь гэта дробязнай Дзеве), не будзеш таксама ўзорам дыпламатыі, дык не рвіся да важных перамоў. Можа чакаць цябе даўжэйшае падарожжа. 19-23.09. не фарсіруй сваіх задум; будзе здавацца табе, што маеш рацыю, а можаш памыляцца.

**(23.06. — 23.07.)** Тыдзень вельмі насычаны, ды ўдалы, плённы. Вялікія шанцы асабліва для прадпрымальнікаў і купцоў. Магчымае аднаўленне старых сардэчных прывязанасцей. У аўторак магчымая нечаканая прапанова і сустрэча з даўнім партнёрам па бізнесе. Пятніца — добры дзень для куплі нерухомасці.

**(24.07. — 23.08.)** Магчымы неспадзяваны раман (можа хутка кончыцца). Чакае цябе многа спраў і праблем, ды ўсе яны пойдуць да дабра. Праўда, не ўсё зробіш сам, трэба будзе папрасіць падмогі збоку; закруціся пры радні і ўплывовых людзях. Грамадскія кантакты прыдадуцца ў будучыні. Пад канец тыдня будзеш лішне недаверлівы.

**(24.08. — 23.09.)** 19-23.09. даведаешся, што блізкія пра цябе думаюць (не заўжды будзе гэта мілае). Тыдзень напоўнены рознымі клопатамі, раз’ездамі і сустрэчамі. Можаш апынуцца ў цэнтры ўвагі. Праяўляй больш гнуткасці, ідзі на кампраміс. У аўторак пакажаш свае таленты ў прафесійнай сферы, каб атрымаць перавагу над непрыяцелем.

**(24.09. — 23.10.)** З 17.09. наладзіш новыя кантакты, здабудзеш важныя інфармацыі, а вучоба і экзамены пойдуць табе прыпяваючы. Дагаворышся з усімі. Ды лепш не ўзбірайся на трыбуну. 19-23.09. можаш рызыкнуць пры інвестыцыях, дамовах.

**(24.10. — 22.11.)** Калі апынешся ў нялёгкай сітуацыі, можаш разлічваць на асобу, якая табе шмат у чым абавязана. 18.09. усе твае справы рушаць уперад. Атрымаеш важныя інфармацыі, пашырыш кантакты. У другой палове верасня памогуць табе шчаслівыя выпадкі. Скінь пыл са сваіх старых задум. 18-20.09. лепш не ідзі на хірургічную аперацыю (магчымы крывацёк, гарачка і іншыя складанасці).

**(23.11. — 22.12.)** У другой палове верасня можаш моцна закахацца, а праз тваю хату перавінецца мноства гасцей. З 17.09. наладзіш карысныя знаёмствы і завершыш спрэчкі. 19-23.09. будзеш мець добры нюх да прыбытковых нагод. Рызыка будзе мець добры вынік і забяспечыць табе дабро на будучыню.

**(23.12. — 20.01.)** Да 20.09. на нішто ты не павінен наракаць. З 16.09. можаш разлічваць на мноства пазітыўных выпадкаў. Пакажаш што можаш, а свет перад табою адкрыецца. З 16.09. паявіцца нагода, якую грэх было б не выкарыстаць. Непрыемныя сюрпрызы партнёраў могуць на гэтым тыдні чакаць бізнесменаў.

**(21.01. — 19.02.)** У другой палове месяца найлепш адпачывай, бо адчуеш стому; выконвай мінімум. 17-21.09. прадбачваюцца канфлікты; твае імкненні да незалежнасці могуць не спадабацца шэфу. У планах выкарыстай сваякоў і ўплывовых знаёмых, якія памогуць тваім праектам ажыццявіцца. 19-23.09. лепш не выбірайся ў падарожжа, абмінай перакупшчыкаў і падазроныя прамоцыі, не падпісвай важных папер.

**(20.02. — 21.03.)** Чакае цябе лішак плённых прапаноў, ды не лаві ўсіх сарок за хвасты. Падвучыся ў эканоміі. Памятай: не ўсё золата, што свеціцца. 19-23.09. зоркі могуць сур’ёзна ўскладніць твае справы; не дасягнеш усяго, на чым табе залежыць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. горад у 55°45’21” ад экватара і ў 37°37’03” ад Лондана, 2. прозвішча першага сакратара ЦК КПБ ў 1956-1965 гг., 3. колішні іспанскі вяльможа, 4. неабходная ў кухні, 5. марская рыба, якая для расплоду вандруе ў рэкі (*Salmo salar*), 6. вясельны абрадавы пірог, 7. Ларыса Геніюш або Віслава Шымборска, 8. дугападобная палоска валасоў над вочнай ямінай, 9. важная карта, 10. прозвішча савецкага шахцёра, які з 30 на 31 жніўня 1935 г. выканаў 1475% нормы, 11. маёмасць, якую маладуха ўносіла ў сужонства, 12. спакушальнае дрэва Адама і Евы, 13. антонім мінімуму.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская прыказка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | 2 | 3 | | 4 | 5 | | | | | | 6 | |
| | | | 7 | | | | | | | | | 8 | | | 9 | | | |
| | | | | | | | 10 | | | | | | | | | | | |
| | | 11 | | | | | | 12 | | | | | | 13 | | | | |

**Адказ на адгаданку з 33 нумара**

Вал, вечар, дына, Ева, зло, кечуа, мера, сума, удод.

Рашэнне: **Мудры чалавек чуе адно слова, а разумее два**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Афанасій Метэорскі, як было ўжо сказана, дастаўся на верх стромкай гары на крылях арла. У цудоўны і недаказаны спосаб пераадолеў сваю дарогу наш Меркурый Смаленскі. Сам аўтар „Аповесці" не звяртае ўвагі на такія дэталі як адлегласць, рыхтык ніякі рэальны грунт не ляжаў пад нагамі яго героя. Зусім не істотны факт, што між Смаленскам і Даўгамосцем, дзе адбылася сеч, дваццаць чатыры-пяць вёрст. Несумненна, па гэтай прычыне два стагоддзі пазней больш рацыянальныя аўтары культу далучылі да выявы рыцара яшчэ каня. Той дадатак прамаўляе *як прывяжы кабыле хвост*. Найперш з-за балотнарачнога наваколля, у які правалўся б з капытамі і хвастом іх рацыянальны дадатак. У час, калі адбываецца натхнёны чын Меркурыя Смаленскага, летапісцы адзначаюць вялікія разлівы на Дняпры. Гэты нечаканы факт заставіць манголаў кінуцца ў іншы бок, між іншым на наша Падляшша, каб спляжыць тут Драгічын і Бярэсце...



Фота і тэкст Евы СЦЕПАНЮК

# На хвалі святой камерцыі (5)

У сярэднявечнай „Аповесці" пранікае да мазгоў касцей атмасфера сакрэтнасці, калі пад покрывам зорнага неба наш намолены рыцар сам адзін перасякае вароты горада і адважна ступіць у ноч. Ніхто яго не прыкмеціць, не спыніць, не ўздыхне і не ўзмахне яму ядвабнай хусцінкай. На самой справе тут непатрэбныя пояснення і рацыянальныя дадаткі. Сярэднявечны чалавек разумее, што пра сакрэтныя справы не гавораць уголас.

* * *

Няма сэнсу складаць у лагічную паслядоўнасць сюжэт агіяграфіі, дарэчы, прыгожа і палітычна мадыфікаванай нават у наш час. У народнай маскоўскай легендзе з семнаццатага стагоддзя той прыстаўлены конь, які быццам мае павысіць верагоднасць святога, пасля перамowнай бітвы расплывецца ў паветры. Цуд пабачыць тая ж самая смалянчанка, што пачастуе рыцара без галавы салёнай аплявухайлаянкай. Псіхалагічны партрэт жанчыны зусім не падыходзіць да беларускага менталітэту, а ўжо напэўна да ўяўлення дзявіцы, што ідзе па ваду і сустракае жаніха — так гэты народны матыў бачаць расійскія даследчыкі культу!

Праўда, у гісторыі хрысціянства не такія здарэнні набылі вядомасць і славу. У гэтым месцы варта ўспомніць нябеснага патрона нашага героя, Меркурыя Кесарыйскага (яго называюць яшчэ Кападоцкім, хоць па паходжанні ён быў скіфам з княжага роду). Свой найбольшы мілітарны подзвіг гэты святы воін здзейсніў сто гадоў пасля сваёй смерці, ужо з перспектывы нябёс. Паводле распаўсюджанай у хрысціянскім свеце легенды, ад яго нябачнай рукі згіне рымскі імператар Юльян Адступнік. На цуд спрацуе малітва святога Васіля Вялікага, які накіруе гарачыя просьбы да іконы Багародзіцы, з выявай Меркурыя Скіфа. Малітва святога датычыць канкрэтнай просьбы*: каб злашчасны цар Юльян Адступнік не вярнуўся жывым з Персідскай вайны*. У адзін момант, калі ён будзе маліцца перад іконай, з абраза нечакана знікне Меркурый. Дзеянне напамінае балючы прывід, галюцынацыю. Ды — не! Пасля некалькіх хвілін святы ваяр вернецца на сваё месца і, быццам нічога не сталася, зноў дастойна стане побач Багародзіцы на іконе. Аднак яго кап'ё, што бачыць святы Васіль Вялікі, сцякае жывой крывёй. Гэта не дае спакою, трывожыць, наклікае здагадкі...

Спакой, значыць зразуменне цуду, прыйдзе праз нейкі час, калі свет абяжыць вестка пра нечаканую смерць злашчаснага ворага прававерных хрысціян, цара Юльяна Адступніка. Яго грудзі праб'е кап'ё невядомага нікому рыцара, які зляціць на кані з неба і пасля забойства, разам з канём, расплывецца ў паветры.

* * *

У час экзатычнай экскурсіі ўсе жадалі набыць сабе славу і атракцыйнасць, каб пасля вяртання пахвастацца перад сям'ёй і знаёмымі на фейсбуку турыстычнымі забаўамі. А ўжо найбольш пастараўся Артур Б., звышамбітны менеджар ад Васількава. Ён з усяе сілы стараўся ўлезці ў кожнае здарэнне і пяць хвілін цешыцца славай медыйнай зоркі. Кожны свой крок на грэчаскай зямлі ён мусіў увекавечыць на фотцы або камеры. Яго позы, ад якіх веяла імпатэнцыяй, здымала штучная бландзінка, паводле афіцыйнай версіі, другая жонка. Вось, і цяпер, будучы ў святым месцы, ён палез у забароненую зону на скалы, прыблізіўся да крутога берага над прорваю, каб там увекавечыць сваю адвагу. Артур выканаў акрабацыю на адной назе, так званую *яскулку*. Яго *геройскі* чын зафіксавала на кадры жонка з цяжкім залатым ланцугом на шыі і дурной усмешкай на твары.

— Ён жа за момант грымне ў яму, заб'ецца, — крыкнуў напалоханы Дамінік...

— А мне *папросту* за яго сорамна, — сказала сканфужаная Рэня. Першы раз такі каментар яна кінула ў прыманастырскай краме з іконамі, дзе наш менеджар з ходу захапіў чатыры кубачкі з узо. Пасля ён усё вяртаўся да стала, перахіляючы чарговыя кубкі з дармовай гарэліцай...

Я даўно адвучылася саромецца за іншых, асабліва тых незнаёмых, але як Рэня і Дамінік не асталася абыякавай. У маіх вачах мільгануў чэрап і шкілет у манастырскім акенцы, да якога сляпіцай таўкліся турысты і фатаграфавалі астанкі нячшаснага з прысмакам сенсацыі. І зараз, наглядзеўшыся на п'янае геройства Артура, мне нешта перасунулася ў мазгах, прымроілася. На месцы таго медыйнага шкілета я ўявіла косці нашага звышамбітнага менеджара ад Васількава. Яго чарапок аздабляў турыстычны подпіс: *І я тут быў, і я тут добра гуляў.*

*(працяг будзе)*





Меркурый Кесарыйскі, любімы святы коптаў



Nicholas Roeirisch Museum, New York

ISSN 0546-1960